# НАШ КРАЙ

## ШТОМЕСЯЧНІК Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ



№ 2 ЛІСТАПАД-СЬНЕЖАНЬ



МЕНСК.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ



Лістапад-Сьнежань 1925 г.

№ 2-3

ВЫДАНЬНЕ
ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
МЕНСК—1925



Я. Кісьлякоў

# Тып беларускай сялянскай гаспадаркі

*(Экономічны нарыс на падставе рахункова-агрономічнага досьледу)*

I

Кожная сялянская гаспадарка для атрыманьня найвышэйшага прыбытку павінна быць дакладна прыстасована да тых умоў, у якіх яна знаходзіцца.

Знадворных умоў, ад якіх залежыць будова гаспадаркі, надта многа: тут і прыродныя ўмовы (глеба, вільгаць, колькасьць сонцавай энэргіі і яе разьмеркаваньне на працягу году і г. д.), тут і юрыдычныя ўмовы (правы зямлякарыстаньня, арэнды, права найму, дадатковае працоўнае сілы і г. д.), урэшце, і галоўныя—розныя экономічныя ўмовы (адлегласьць ад замежнага рынку, ад бліжэйшых мястэчак і гарадоў; цэны на гэтых рынках, як на розныя с.-г. продукты, так і на тавары індустрыі, розныя мерапрыемствы, як агульнай экономічнай політыкі, так і спэцыяльна сельска-гаспадарчай, сыстэма падаткаў і г.д.).

Усе гэтыя ўмовы ў кожнай паасобнай частцы тэрыторыі дзяржавы складаюцца парознаму, а, значыць, вымагаюць і featuresрознае будовы гаспадарак тае ці іншае краіны, раёну.

Але і ў межах асобных раёнаў гаспадаркі не аднолькавы. Розная колькасьць зямлі, працы, сродкаў вытворчасьці (капіталы), якую мы бачым у індывідуальных гаспадарках аднэй і тэй-жа вёскі — вымагаюць ад гаспадароў парознаму адказваць на аднолькавыя знадворныя ўмовы, парознаму будаваць гаспадарку.

Урэшце, не апошняе месца ў будове гаспадаркі мае і асоба гаспадара з яго культурным разьвіцьцём, здольнасьцямі і гаспадарчымі нахіламі.

У выніку ўсяго гэтага, калі мы больш уважліва прыгледзімся да гаспадарак, дык убачым вялікую featuresрознастайнасьць іх пабудовы.

А як-жа быць з вывучэньнем гэтых гаспадарак? Няўжо трэба паасобку дасьледваць кожную з 700.000 сельскіх гаспадарак, якія ёсьць на Беларусі, для таго, каб зразумець, чым наогул адзначаецца наша сялянская гаспадарка?

Сялянскія гаспадаркі, ня гледзячы на іх індывідуальныя адзнакі, маюць у межах тае ці іншае краіны, раёну агульныя рысы і належаць да аднаго і таго-ж тыпу.

Добра, згодзіцца чытач, магчыма і цікава ведаць тып шэрагу гаспадарак, але ці ёсьць якія падставы гутарыць аб тыпу сялянскіх гаспадарак усёй Беларусі, калі іх некалькі соцень тысяч і калі яны раскіданы па гэткім вялікім абшары. Мо' для гэткай колькасьці гаспадарак, якія знаходзяцца ў відавочна розных умовах, няма сэнсу шукаць агульнага тыпу гаспадаркі?

Зразумела, што для меншага ліку гаспадарак лягчэй знайсьці тыповую, і тым менш будзе адрозьнівацца ад гэтага тыпу кожная гаспадарка паасобку. І калі мы бярэм сялянскія гаспадаркі ўсёй Беларусі і шукаем сярод іх тыповую, мы павінны ведаць, што паасобныя гаспадаркі будуць значна адрозьнівацца ад таго тыпу, які мы для іх устанаўляем. Але разам з гэтым ёсьць сэнс выяўляць тып сялянскай гаспадаркі Беларусі, як гэта робіць антраполёгія, калі яна дае тып асобных нацый (беларус, немец, швэд і інш.). Ува ўсякім разе агульна-беларускі тып сялянскае гаспадаркі будзе значна іншым, чым тып сялянскіх гаспадарак іншых краін.

Як адшукаць гэты тып? Ёсьць розныя мэтоды. Матэрыялы для гэтага нарысу атрыманы наступным мэтодам. Па тэрыторыі БССР узята 14 тыповых валасьцей, дзе ўзята па аднэй тыповай вёсцы, а ў апошняй па 8 тыповых гаспадарак. Гэтыя 112 гаспадарак дасканальна дасьледваны па мэтоду рахункова-агрономічнага аналізу, і на падставе іх, як сярэдняе, атрыман той тып сялянскае гаспадаркі Беларусі, аб якім будзе зараз гутарка. Гаспадарчым годам для нашай гаспадаркі зьяўляецца 1 красавіка 1923 г.—1 красавіка 1924 г.

## II

Наша тыповая сялянская гаспадарка знаходзіцца ў 13 вярстах ад мястэчка, у 25 вяр. ад гораду і 20 вяр. ад чыгункі. Пры такой адлегласьці ад месца продажу сваіх продуктаў гаспадарка можа вытвараць на продаж усе продукты (апроч сьвежага малака). З патрэбных гаспадарцы сродкаў вытворчасьці яна ня можа толькі купляць гною дзеля далёкасьці да мястэчка.

Сям'я, якая працуе на гаспадарцы, мае 6 чалавек: гаспадар, гаспадыня, хлопец і дзяўчына старэй 12 год і двое дзяцей да 12 год. Калі пералічыць усіх членаў сям'і ў „адзінку дарослага мужчыны", то ў сям'і будзе 4,45 едакоў або 3,53 працоўных адзінкі. Значыцца, на адну працоўную адзінку прыпадае 1,28 едакоў. Запас працы на працягу году для ўсёй сям'і—1.002 працоўных дні (сьвяты ў гэты лік не ўваходзяць). Прычым адна дарослая жанчына (гаспадыня) увесь год занята хатняй гаспадаркай (гатаваньне яды, мыцьцё бялізны, догляд за дзецьмі і інш.), на што яна траціць 230 „мужчынскіх дзён". Значыць, на вытворчую працу гаспадаркі сям'я можа даць 772 працоўных дні. Пісьменнасьць сяброў сям'і: 1 граматны і 1 поўграматны мужчына і 1 поўграматная жанчына.

Сям'я карыстаецца 9,05 дзес. зямлі, з якой пад ворнай зямлёй знаходзіцца 5,48 дзес. або 60,8 проц. ад усёй плошчы; пад сенажацьцю 2,45 дзес. або 27,1 проц., рэшта—1,12 дзес.—пад сядзібай, гародам, выганам і няўдобіцай. Процант плошчы пад ворнай зямлёй у нашай гаспадарцы—большы, чым у швайцарскіх палепшаных сялянскіх трох-

палёўках (42 проц.) і меншы, чым у шматпольных гольштынскіх гаспадарках (80 проц. пад ворнай зямлёй і гародам). Гарод у гаспадарцы невялікі—0,13 дзес. Саду можна лічыць зусім няма.

З будынкаў гаспадарка мае адну драўляную з саломенаю страхою хату, якая каштуе 150 жытных адзінак[1]); плочша падлогі ў хаце—105 квадр. аршын. або 11,7 квадр. сажня. Калі прызнаць для вёскі норму жылой плошчы такой-жа, як у горадзе (2 квадр. саж. на адну асобу), то ў нашай гаспадарцы павінна быць на 6 асоб 12 квадр. саж. Значыць, сям'я знаходзіцца ў больш-менш нормальных умовах адносна памяшканьня.

Для жывёлы ў гаспадарцы ёсьць адзін вялікі і адзін малы хлеў, якія разам каштуюць 47,5 жытніх адзінак. Плочша гэтых хлявоў—136 квадр. арш. або 15,1 кв. саж.; яе зусім даволі для тэй жывёлы, якая знаходзіцца ў гаспадарцы (усяго жывёлы ў пералічэньні на дарослую—6 штук; па 2 квадр. сажн. на галаву—12 квадр. саж.). Горш справа з якасьцю хлявоў: усе яны без падлогі і столі, цёмныя і халодныя; жывёла стаіць на гнаі, які выбіраецца два разы ў год—у вясну (красавік-травень) і ўлетку (чэрвень-жнівень). Умовы ўтрыманьня жывёлы, як бачым, дрэнныя.

Урэшце, гаспадарка мае яшчэ 3 іншыя халодныя будынкі: гумно, ток, клець і пограб, якія разам каштуюць 96,8 жытніх адзінкі, а па плошчы займаюць 283 квадр. арш. або 3,41 кв. сажн. Калі кажуць аб лішніх будынках у гаспадарцы, мы павінны шукаць іх у гэтай групе.

Усе будынкі разам каштуюць 294,2 жытніх адзінак, што на 1 дзес. землякарыстаньня дае 34,95 жытніх адзінак. Збоку колькасьці будынкаў і іх плошчы трэба лічыць стан гаспадаркі здавальняючым.

Значна горш стаіць справа ў нашай гаспадарцы з гаспадарчымі прыладамі (мёртвым інвэнтаром): іх усяго ёсьць на 82,44 жытніх адзінкі; прычым прылады для апрацоўкі зямлі каштуюць усяго 16,73 жытніх адзінкі. Зразумела, што з такой колькасьцю і якасьцю прылад гаспадар ня можа дакладна апрацаваць сваёй ворнай зямлі, ня кажучы ўжо аб сенажаці.

Жывёла ў гаспадарцы складаецца з аднаго каня і жарабяці з коштам абодвух у 189,23 жытн. адзінкі, з дзьвёх дарослых кароў і 2 цёлак (усе каштуюць 151 жытн. адз.), пяці авечак (16,6 жытн. адз.) і трох сьвіней (29,2 жытн. адз.) і дзевяцёх птушак (9,4 жытн. адз.). Уся жывёла разам каштуе 385,59 жытн. адзінкі.

Абаротных сродкаў гаспадарка мае на 22 жытн. адзінкі (прыблізна).

Такім чынам, вытворчасьць нашай тыповай гаспадаркі абапіраецца на 9,05 дзес. зямлі, на капіталы: у будынках—294,2 жытн. адзін., у гаспадарчых прыладах—82,44 жытн. адз., у жывёле—385,59 жытн. адз., зваротныя сродкі—22 жытн. адз., запас працы—772 працоўных дні дарослага мужчыны. Актыўны капітал гаспадаркі (капітал у жывёле, прыладах і абаротныя сродкі), на які гаспадар павінен атрымліваць належны процант прыбытку—490,03 жытн. адзінкі.

Паглядзім цяпер, якія прыбыткі атрымоўвае гаспадар ад усёй сваёй гаспадаркі і як яны аплачваюць яго працу і капіталы[2]).

---

[1]) Ува ўсіх далейшых вылічэньнях вартасьці вылічаны ў жытніх адзінках, якой зьяўляецца каштоўнасьць аднаго пуда жыта.

[2]) У сваім разуменьні істоты сялянскай гаспадаркі і тлумачэньні яе прыбытковасьці мы адхіляем як тэорыю „праца-спажывецкага", так і тэорыю „праца-здабывальнага" балянсу.

III

Гадавы гуртавы прыбытак нашай гаспадаркай—1.046,26 жытн. адз., у склад якога ўваходзяць прыбыткі ад:

| | Жытніх адзінак | % ад усяго прыбытку |
|---|---|---|
| 1. Земляробства . . . | 435,85 | 41,6 |
| 2. Жывёлагадоўлі . . . | 521,80 | 49,8 |
| 3. Заробкі і хатн. рамествы | 88,61 | 8,6 |

Як бачым, палова гуртавога прыбытку прыпадае на жывёлагадоўлю; земляробства займае другое месца. Зусім іншы малюнак атрымаем, калі вылічым умоўна-чысты прыбытак, інача кажучы, калі мы з гуртавога прыбытку адкінем каштоўнасьць вытворчасьці (насеньне, гной, каштоўнасьць конскай працы, рэмонт прылад),—тады будзем мець:

| | Жытніх адзінак | % ад усяго ўмоўна-чыстага прыбытку. |
|---|---|---|
| Увесь умоўна-чысты прыб. | 516,13 | 100,0 |
| Земляробства . . . . . | 283,32 | 54,9 |
| Жывёлагадоўля . . . . | 162,52 | 31,5 |
| Заробкі і хатнія рамествы | 70,29 | 13,6 |

Земляробства ў складзе умоўна-чыстых прыбыткаў займае першае месца і дае больш палавіны гэтага прыбытку. Значыць, для атрыманьня прыбытку ад жывёлагадоўлі трэба страціць больш сродкаў вытворчасьці.

Варта тут-жа адзначыць, што ўмоўна-чысты прыбытак у нашай гаспадарцы складае каля 50 проц. ад гуртавога прыбытку, у той час як у швайцарскіх і інтэнсыўна-травапольных гаспадарках, якія на дзесяціну атрымоўваюць больш, чым у тры разы гуртавога прыбытку супроць нашых гаспадарак, гэты процант меншы—34 проц. Адсюль ужо відаць, што нізкі гуртавы прыбытак нашай гаспадаркі ў значнай меры залежыць ад недахопу сродкаў вытворчасьці.

Але пойдзем далей і паглядзім, як разьмяркоўваецца умоўна-чысты прыбытак. Большая частка яго (402,67 жытн. адз.) ідзе на спажыцьцё сям'і, інача кажучы, на заробкавую ёй плату, разумеючы пад апошняй колькасьць сродкаў, патрэбных для падтрыманьня сілы працоўных і гадоўлі новай працоўнай сілы.

Рэшта траціцца: на падатак (умоўна-рэнту)—41,29 жытн. адз., пакрыцьцё неспадзяваных трат гаспадаркі (галоўным чынам, падзеж жывёлы)—32,78 жытн. адз.; павінна адкладвацца на амортызацыю грунтоўнага капіталу (будынкі, жывёла, гаспадарчыя прылады)—35,70 жытн. адз. Фактычна на амортызацыю застаецца толькі—29,39 жытн. адз.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Нормальна працуючы, гаспадарка павінна атрымоўваць належны процант на капітал, якога наша гаспадарка мае на 490,03 жытн. адзінкі. Калі лічыць, што гэты капітал павінен атрымоўваць 5 проц. прыбытку (самы нізкі), то на яго трэба з умоўначыстага прыбытку адлічыць 24,5 жытн. адзінкі. Фактычна наш гаспадар гэтага проценту не атрымоўвае, іначай кажучы, актыўны капітал, закладзены ў яго гаспадарцы, працуе бяз прыбытку.

Такім чынам, наш гаспадар не атрымоўвае поўнасьцю амортызацыйнага капіталу (не хапае 6,31 жытн. адзінкі) і зусім не атрымоўвае проценту на закладзены ў гаспадарцы актыўны капітал (24,5 жытн. адз.), што разам складае дэфіцыт гаспадаркі ў 30,81 жытн. адзінкі. Калі-б такую гаспадарку вёў капіталісты, ён магчыма-б паставіў пытаньне аб яе зьліквідаваньні. Наш селянін гэтак пытаньне бязумоўна ня ставіў і не паставіць, а будзе яе весьці і надалей. Вось чаму мы павінны прасачыць, чым тлумачыцца беспрыбытковасьць яго гаспадаркі, а разам з гэтым вырашыць, у якім кірунку трэба палепшыць селяніну гаспадарку так, каб яна давала зыск.

Першым паўстае пытаньне—можа тыя ўтрыманьні і вылікі, якія зрабіў селянін з свайго ўмоўна-чыстага прыбытку, зьяўляюцца занадта высокімі. Разгледзім іх па парадку.

1. Селянін атрымаў у лік заробкавай платы сабе і сваёй сям'і 402,67 жытн. адз.; за год ён фактычна на гаспадарку, як прадпрыемства, страціў 658 працоўных дзён дарослага мужчыны. Значыць, за дзень працы дарослага мужчыны ён браў усяго 0,61 жытн. адзінкі—плата, як бачым, зусім нізкая; селянін у заробак сабе не перабраў.

2. Селянін заплаціў падатку—41,29 жытн. адз. Ці ня многа гэта? Пры тым стане гаспадаркі, у якім яна цяпер знаходзіцца,—бязумоўна многа[1]; і падатак гэты зьяўляецца ня толькі арэнднай платай (рэнтай), якую селянін павінен плаціць дзяржаве, а і падаткам на сялянскі капітал (маемасьць). Але разам з гэтым трэба адзначыць, што падатак у 41,29 жытн. адз., калі яго рэнтаваць у 5 проц., адпавядае ацэнцы зямлі селяніна ў 825 жытн. адзінкі (якой ён мае—9,05 дзес.). Значыць, дзяржава, бяручы гэткі падатак, прымае кошт дзесяціны зямлі менш, чым у 100 жытн. адз., што зьяўляецца ацэнкай бязумоўна нявысокай, і дзяржава, з свайго боку, справядліва, калі патрабуе з нашага селяніна падатку ў 41,29 жытн. адз.

3. Селянін па звычайн м процанце атрымаў 35,70 жытн. адз. на амортызацыю свайго грунтоўнага капіталу. Утрыманьне гэта бясспрэчна і неабходна, калі мы разам з гаспадаром ня хочам зьмяншэньня яго маемасьці, ад якой залежыць далейшы працяг вытворчага процэсу гаспадаркі.

4. Урэшце селянін з умоўна-чыстага прыбытку аддаў 32,78 жытн. адз. на пакрыцьцё неспадзяваных, выпадковых страт. Гэты вынік нельга лічыць нормальным і неабходным. Бязумоўна, такія-сякія страты кожная гаспадарка мае, але наша гаспадарка іх мае занадта шмат. Паколькі найбольшыя страты прыпадаюць на падзеж жывёлы, якая, як мы бачылі, знаходзіцца ў вельмі дрэнных умовах, патолькі трэба як селяніну, так і дзяржаве зьвярнуць на гэта належную ўвагу. Добрая організацыя вэтэрынарнай дапамогі—адна з галоўных задач дзяржавы, належнае выкананьне якой, калі ня зусім, то значна зьменшыла-б гэты вынятак з умоўна-чыстага прыбытку.

---

[1]) Падатак з селяніна ў гэтым годзе (1924-25) амаль што ў 2 разы меншы.

Такім чынам, мы бачым, што, за выключэньнем адлічэньняў на пакрыцьцё падзежу жывёлы, разьмеркаваньне нашым гаспадаром умоўна-чыстага прыбытку больш-менш зроблена правільна. А калі гэта так, тады беспрыбытковасьць гаспадаркі мы павінны шукаць у хібах організацыі вытворчасьці гаспадаркі, вынікам якой зьяўляецца нізкі,—як гуртавы, так і ўмоўна-чысты—прыбытак нашай гаспадаркі. Вось чаму спынімся каротка (за нястачай месца) на некаторых організацыйных рысах гаспадаркі.

IV

Як організавана праца ў нашай тыповай гаспадарцы? Ці няма якіх-небудзь хібаў у гэтай організацыі?

Запас працы ў гаспадарцы—1.002 працоўных дні, з іх скарыстана на хатнюю гаспадарку—230 дзён, на земляробства і жывёлагадоўлю—600 дзён, на па-загаспадарчыя промыслы—58 дзён; усяго скарыстана 888 прац. дзён; засталося нескарыстаных 114 дзён, або 11,3 проц. ад усяго запасу працы. Невыкарыстаньне ўсёй працы тлумачыцца, галоўным чынам, тым, што ў гаспадарцы ў зімовы месяц, апроч догляду за скацінай, іншай працы няма. Яе мажліва скарыстаць толькі на заробкі па-за межамі самой гаспадаркі, а гэтых заробкаў якраз ня так многа. Вось чаму трэба лічыць надта пажаданым пашырэньне ў вёсцы розных саматужных раместваў і промыслаў, на якія гаспадар мог-бы аддаць сваю працоўную сілу. Ня зусім добра разьмеркавана праца ў нашай гаспадарцы ў іншыя месяцы году: жнівень-верасень занадта завалены працай у палявой гаспадарцы, тады як чэрвень больш-менш свабодны. Гэта зьяўляецца вынікам збожжавага складу палявой гаспадаркі. Спынімся на апошняй.

Гаспадарка мае 5,48 дзес. ворнай зямлі, з яе яна засявае толькі 3,93 дзес., рэшта—1,55 дзес.—знаходзіцца пад папарам (28,3% ад усёй ворнай зямлі). Значыць, наша гаспадарка адышла ўжо ад чыстай трохпалёўкі (33% папару), але яшчэ далёка не дашла да плодазьмену, пры якім папару зусім не павінна быць. Горш справа з разьмеркаваньнем засеўнай плошчы паміж групамі культур: пад збожжа зімовае ды яравое занята 3,17 дзес., або 80,5% і толькі 0,78 дзес. занята іншымі расьлінамі. Сярод іншых першае месца займае бульба — 0,46 дзес. (11,5%); за ёй ідуць высяўныя травы—0,19 дзес. (4,8%) і, урэшце, лён—0,13 дзес. (3,2%). Збожжавы склад палявой гаспадаркі відавочны.

З тэорыі і практыкі сельскай гаспадаркі вядома, што збожжавая гаспадарка можа больш-менш рацыянальна весьціся або тады, калі ёсьць багатая глеба, або калі ў гаспадарцы шмат натуральных сенажацяй (на 1 дзес. ворнай зямлі ня менш 1 дзес. добрае сенажаці). Нашая гаспадарка мае супясковыя небагатыя глебы і на 1 дзес. ворнае зямлі—менш поўдзесяціны дрэннай сенажаці; гэта значыць, што рацыянальна весьці збожжавую палявую гаспадарку яна ні ў якім разе ня можа, а калі яна фактычна яе вядзе, дык не атрымоўвае як ад палявой гаспадаркі, так і ад усёй гаспадаркі наагул магчымага прыбытку. Гэта мы й бачым!

Гаспадар, высяваючы 10 пуд. на дзес. жыта, зьбірае з яе толькі 50 пуд.; высявае 14 пуд. аўсу, а бярэ толькі 55 пуд.; высявае 91,5 пуд. бульбы—бярэ 513,8 пуд.,—іначай кажучы, зьбірае ўраджай ня больш сам-пяць. Гэта, бязумоўна, зусім мала пры тэй невялікай плошчы зямлі, якая ёсьць у гаспадарцы.

Пачынаюцца гутаркі з нашым гаспадаром. Чаму такі малы ўраджай?—Дрэнная глеба ды няма гною. Чаму няма гною?—Мала жывёлы. А чаму мала жывёлы?—Няма на большы лік корму. А чым ты корміш сваю жывёлу?—Амаль што выключна сенам, саломай і мякінай.—А чаму не пасееш у полі больш бульбы й травы?—Баюся, самому ня хопіць хлеба, а на бульбу, ня ведаю, ці хопіць працы.—Дык ты прадасі: сала, масла, яйкі або іншыя продукты жывёлагадоўлі і купіш сабе недастачу хлеба.—Добра, а ці будзе выгада, калі я пачну прадаваць мяса, масла, сала й купляць збожжа,—запытае, урэшце, гаспадар.

Каб разьвязаць гэта пытаньне, паглядзім, што кажа нашаму гаспадару рынак і ўзровень на ім цэн на розныя продукты сельскае гаспадаркі. Але раней, чым рабіць гэта, мы прымушаны крыху ўхіліцца ў бок. Справа ў тым, што жывёлагадоўля ў розных тыпах гаспадарак займае не аднальковае месца. У тых выпадках, калі продукты жывёлагадоўлі расцэньваюцца на рынку танна, а глеба абавязкова патрабуе ўгнаеньня—жывёлагадоўля можа быць сама па сабе нявыгоднай, і гэты ўбытак залічваецца ў страты земляробства. Жывёлагадоўля ў гэтым выпадку абмяжоўваецца да мінімуму, і пашырэньне яе далей не рацыянальна. У іншых выпадках, калі ў гаспадарцы шмат добрых сенажацяй, а сена вазіць на продаж далёка, або калі на рынку продукты жывёлагадоўлі каштуюць адносна дорага,—жывёлагадоўля мае ўсе ўмовы да пашырэньня, як збоку колькасьці, так і збоку якасьці. Паколькі ў нашага гаспадара сенажацяй мала і яны дрэнныя, пастолькі жывёлагадоўля ў яго можа пашырацца толькі на грунце добрых цэн на яе продукты.

Вось чаму мы павінны на момант застанавіцца на руху цэн продуктаў жывёлагадоўлі. Як вядома, з канца мінулага сталецьця (XIX) пачаўся ўзрост цэн на ўсе продукты сельскай гаспадаркі. Але ў гэтым узросьце найбольш шпарка расьлі цэны на продукты жывёлагадоўлі. Так, калі прыняць цэны па ўсёй Расіі 1890—99 г. г. за 100, тады цэны ў 1912-13 г. г. будуць на хлебныя продукты—138,8, а на продукты жывёлагадоўлі — 168,7. Да гэтага трэба дадаць яшчэ наступную невялічкую табліцу:

Сярэднія цэны за пуд (у рублёх) у 1909—13 г. г.

| | Жыта | Сьвініна | Сала | Масла |
|---|---|---|---|---|
| На 50 губ. Расіі . | 0,85 | 5,06 | 8,21 | 14,06 |
| Па БССР . . . . | 0,83 | 5,57 | 9,37 | 14,86 |

На падставе гэтых нямногіх, але выразных лічбаў мы маем права казаць, што як рух цэн на продукты жывёлагадоўлі, так і адносны іх узровень (параўнаўча з іншымі часткамі СССР) стваралі ўсё лепшыя й лепшыя ўмовы для разьвіцьця жывёлагадоўлі з мэтай атрыманьня ад яе продуктаў на продаж. Пасьля рэволюцыі продукты жывёлагадоўлі папалі ў яшчэ лепшыя ўмовы. У той час (1923-24 г. г.), калі цэны на жытнюю муку складалі толькі 76% ад даваеннай цаны, цэны на масла складалі 132%, на мяса—95%.

У выніку гэтага кароткага агляду на апошняе запытаньне гаспадара адказваем: ёсьць сэнс на рынак везьці сала, мяса, сьвініну, а для гаспадаркі купляць збожжа. Гэта тым больш можна рабіць бяз рызыкі, што праз 2-3 гады ён з меншай плошчы пад збожжам атрымае ня менш прыбытку, чымся цяпер, шляхам яе лепшага ўгнаеньня.

Наш селянін ужо стаў на гэты шлях. Свой грашовы прыбытак у 182,54 жытн. адз. ён у большасьці абапірае на продаж продуктаў жывёлагадоўлі, якіх ён прадае на 103,11 жытн. адз., у той час як продуктаў палявой гаспадаркі ён прадае ўсяго толькі на 41,65 жытн. адз.

Трэба ўзмацніць гэты кірунак гаспадаркі, трэба дабіцца нашаму гаспадару ўдою ад каровы не ў 71,6 вёдз., якія ён цяпер атрымоўвае, а ў 100—150 вёдз., трэба ўзмацніць продукцыю іншых галін жывёлагадоўлі. А гэта будзе магчымым толькі тады, калі:

1. Гаспадар разам з суседзямі аб'яднаецца ў с.-г. коопэратыў, які дапаможа яму больш выгодна прадаць продукты жывёлагадоўлі, а таксама прывесьці іх, шляхам нязначнай апрацоўкі, у больш каштоўны выгляд.

2. Гаспадар пашырыць высеў траў на нізкіх і цяжкіх глебах і высеў бульбы на лёгкай глебе, што дасьць яму магчымасьць лепш карміць жывёлу.

3. Гаспадар зробіць свае хлявы цёплымі і сьветлымі і кіне дрэнны звычай 2-3 разы ў дзень (узімку) падкідваць вехаць цэлай саломы і паіць халоднай вадой: часу, як мы бачылі, хапае ў гаспадара, каб парэзаць салому і прыгатаваць з яе мешанку, а ваду нагрэць у хаце.

4. Гаспадар будзе вучыцца, як весьці сельскую гаспадарку, бо чым далей, тым больш складанай робіцца праца і кіраваньне гаспадаркай.

Вось галоўнае, што стаіць на шляху ў нашага гаспадара, калі ён хоча зрабіць сваю гаспадарку даходнай. Дзяржава ўва ўсім гэтым шчыра яму дапаможа.





О. Полянская

# Аб зьменах расьліннасьці БССР у кірунку з поўначы на поўдзень

*Папярэдняя справаздача аб геоботанічных абсьледваньнях Мазырскай, Бабруйскай і Барысаўскай агруг улетку 1925 г.*

БССР расьцягнулася з поўначы на поўдзень болей, як на 500 вёрст, і на гэтым працягу расьліннасьць яе значна зьмяняецца.

Гэты нарыс мае на мэце кароткі агляд гэтай зьмены расьліннасьці на тэрыторыі, абсьледванай аўтарам.

Разьмяшчэньне расьліннасьці па ўсёй тэрыторыі Ўсходняй Эўропы, як ведама, падлягае пэўнай зональнасьці ў залежнасьці ад зьмен у клімаце. На далёкай поўначы разьляглiся тундры; на поўдзень ад іх цягнецца паласа пераважна яловых лясоў; яшчэ далей на поўдзень— пас шыракалiставых лясоў, затым лесастэп і, нарэшце, стэп. Такую зональнасьць, толькі не ў такім шырокім размаху, можна прасачыць і ў межах Беларусі.

Тэрыторыя БССР на поўначы захапляе *паласу яловых лясоў* (Полацкая і Віцебская акругі), на поўдні—*зону шыракалiставых лясоў* (Мазырская акруга); у сярэдняй-жа частцы Беларусі мы бачым паступовы пераход паміж гэтых двох тыпаў лесу. Сапраўды, у сярэдняй частцы Беларусі пашыраны *мяшаныя шыракалiстава-яловыя лясы („груды“)*, у якіх пры пасоўваньні на поўнач павялічваецца процант елак і зьмяншаецца колькасьць шыракалiставых дрэў. Чым далей на поўдзень, тым менш елак, але затое тым больш трапляецца шыракалiставых парод, якія не сустракаюцца на поўначы Беларусі.

Апрача гэтых *зональных* лясных формацый, якія знаходзяцца ў залежнасьці ад клімату, на Беларусі спатыкаюцца яшчэ *інтразональныя* формацыі, якія залежаць, галоўным чынам, ад асаблівасьцяй глебы (ад складу глебы і ад яе вільгатнасьці). Да інтразональных лясных формацый належаць *хваёвыя бары і чорнаалешнікавыя дрыгвы*.

У сярэдняй частцы абсьледванай мною краіны, у Бабруйскай акрузе, сустракаюцца, такім чынам, тры асноўныя тыпы лесу, якія выразна адрозьняюцца адзін ад аднаго паводле сваёй эколёгіі. Гэта— *хваёвыя бары з пескавым груптам, мяшаныя шыракалiстава-яловыя лясы („груды“) на супясковым і лёгка суглiнкавым грунце і чорнаалешнікавыя дрыгвы на глеявата-балотнай глебе*. Пры зьмене рэльефу, а ў зьвязку з ім глебы і вільгатнасьці, гэтыя тыпы лясоў падлягаюць такой вэртыкальнай зональнасьці.

На пагурках растуць хваёвыя бары, па раўнінах—шырокалістава-яловыя лясы, а ў забалочаных нізінах—альхоўцы. Апрача гэтых асноўных тыпаў лесу, ёсьць яшчэ шэраг пераходных тыпаў з адпаведнай эколёгіяй. Так, у Бабруйскай акрузе чыстыя хваёвыя бары пашыраны, звычайна, на сухіх пескавых глебах і адзначаюцца перавагай верасу ў ніжнім горызонце. Пры большай вільгатнасьці глебы зьяўляюцца ў травяным паземе ягаднікі (чарнічнік і брусьнічнік) і зялёныя імхі, а да хвой у другім паверсе далучаюцца елкі. Утвараецца, такім чынам, пераходны тып лесу—*хваёва-яловы*. Таксама чорнаалешнікавыя дрыгвы, утвораныя ў грузкіх месцах чыстай чорнай вольхай (Alnus glutinosa), пры лепшым дрэнажы пераходзяць у *альхоўцы багацейшага тыпу* з прымешкай у першым паверсе—спачатку ясені, а потым і елкі.

Калі прасачыць зьмены ў складзе расьліннасьці паказаных вышэй трох асноўных тыпаў лесу на тэрыторыі Беларусі, дык выявіцца, што пры пасоўваньні на поўнач або на поўдзень асабліва выразна зьмяняецца склад шырокалістава-яловых лясоў. Характар хваёвых бароў зьмяняецца ў меншай меры, а альхоўцы блізка што па ўсёй Беларусі маюць адзін і той самы склад.

Шырокалістава-яловыя лясы Бабруйскай акругі маюць такі склад. Пераважаюць: елка (Picea excelsa), дуб (Quercus pedunculata) і граб (Carpinus betulus). У меншай колькасьці сустракаюцца: клён (Acer platanoides), вяз, бераст і лём (Ulmus effusa, U. campestris і U. montana), ясень (Fraxinus excelsior) і ліпа (Tilia cordata). Апошняя звычайна мае выгляд кустоў, бо сяляне перашкаджаюць яе ўзрастаньню, абдзіраючы яе на лыкі.

У хмызьняку пераважае ляшчына (Corylus Avellana) з падмешкай двох відаў брызьліны (Evonymus verrucosus і E. europaeus[1]) і сьвідзіны (Cornus sanguinea). Траў у такіх лясох, звычайна, мала. Сярод іх пераважаюць добраполь (Galeobdolon luteum), мядунка (Pulmonaria officinalis), падалешнік (Asarum europaeum), гарэлачкі (майнік, Majanthemum bifolium), (Glechoma hederacea), баршчоўка („заячая капуста“, „заячае шчаўе“, Oxalis Acetosella).

Ідучы з Бабруйскай акругі на поўнач, убачыш, што ў такіх лясох значна ўзрастае колькасьць елак, якая паступова выціскае шырокаліставыя дрэвы. Так, у паўночнай частцы Барысаўскай акругі ў складзе шырокалістава-яловых лясоў ужо рашуча пануе елка. З шырокалістовых парод да яе далучаюцца ў невялікай колькасьці дуб і клён, а ў вільгатнейшых месцах—ясень. Лём і вяз сустракаюцца толькі адзінкамі. Граб і бераст зьяўляюцца рэдкімі ўжо на поўначы Бабруйскай акругі, а ў Барысаўскай зусім адсутнічаюць. Па лясох, павысяканых і з гэтай прычыны рэдкіх, да елі, замест дубу і клёну, далучаюцца ў значным ліку бярозы і асіны (як пароды часовага складу). Хмызьняк лістава-яловых лясоў Барысаўшчыны складаецца, галоўным чынам, з ляшчыны і адзінкавых кустоў брызьліны (Evonymus verrucosus) і жымаласьці (Lonicera Xylosteum). Брызьліна эўропэйская (Evonymus europaeus) зьнікае ўжо ў сярэдняй частцы Бабруйскай акругі, і ў Барысаўшчыне зусім не сустракаецца. Апісаны тып лесу—*ельнік з прымешкай клёну ды дубу і з падлескам з ляшчыны*—зьяўляецца пераходнай формай паміж шырокалістава-яловымі лясамі Бабруйшчыны і чыстымі ельнікамі паўночнага тыпу, пашыранымі ў Полаччыне і

[1]) Брызьліна эўропэйская (Evonymus europaeus) ужо не сустракаецца ў паўночнай палове Бабруйскай акругі.

ў Віцебшчыне. Невялікія прасторы чыстых ельнікаў трапляюцца месцам і ў Барысаўшчыне, асабліва ў яе паўночнай частцы. Сярод траў такіх ельнікаў звычайна пераважаюць чарнічнік (Vaccinium Myrtillus) і баршчоўка (Oxalis Acetosella) на густым дыване зялёнага моху: Hypnum schreberi, Hylocomium proliferum, Ptilium crista—castrensis, Dicranum undulatum і інш.

Наадварот, у кірунку на поўдзень ад Бабруйскай акругі прымячаецца адваротная эволюцыя „грудавага“ тыпу. Елка дасягае толькі да паўднёвай мяжы Бабруйскай акругі і блізка што адсутнічае ў Мазыршчыне, калі ня лічыць асобных, раскіданых па Мазырскай акрузе астраўных месц знахаджэньня елкі. Пераважаюць на Мазыршчыне лясы шыракаліставыя без падмешкі елкі. Паводле свайго складу гэтыя лясы падобны да адпаведных лясоў паўднёвэй часткі Бабруйшчыны і адразьняюцца ад іх толькі большай рознастайнасьцю відавога складу. У першым паверсе ў вялікім ліку сустракаюцца дуб, граб, бераст, вяз, лём, клён, ліпа, ясень; у другім паверсе нярэдка спатыкаецца дзікая яблыня, ігруша; у падлеску—ляшчына, абодвы віды брызьліны, сьвідзіна, некалькі гатункаў шыпшыны і куставых ягаднікаў: маліны, ажыны, куманікі (Rubus idaeus, R. caesius, R. suberectus).

*Хваёвыя бары* паўночнай і паўднёвай Беларусі таксама трохі адразьняюцца сваім флёрыстычным складам. Так, на поўдні, у Мазыршчыне, сустракаюцца толькі чыстыя хваёвыя бары без падмешкі елкі. Другога паверху няма; у падлеску вельмі пашыраны жоўтазель (Genista tinctoria) і зяновец (Cytizus biflorus). У кірунку на поўнач гэтыя дзьве расьліны робяцца рэдкімі і паступова зьнікаюць. На Бабруйшчыне яны ў значнай колькасьці трапляюцца толькі ў паўднёвай частцы акругі. У паўночнай частцы Барысаўшчыны сустракаецца ўжо болей паўночны тып бору. Як ужо было вышэй адзначана, у другім паверсе хваёвых бароў паўночнага тыпу часта зьяўляецца елка. У падлеску жоўтазелю і зяноўцу ўжо няма, а іх месца займае яленец (ядловец, ялавец, Juniperus communis), які амаль што адсутнічае ў Мазыршчыне[1]) і толькі адзінкамі трапляецца ў барох Бабруйшчыны. На Бабруйшчыне прымячаецца паступовае зьніканьне яленцу з поўначы на поўдзень і такое самае зьніканьне жоўтазелю і зяноўцу з паўдня на поўнач. На Барысаўшчыне і Мазыршчыне сустракаюцца два крайнія тыпы бароў: *хваёвыя бары з елкай у другім паверсе і яленцам у падлеску і чыстыя хваёвыя бары бяз елкі і з жоўтазелем ды зяноўцам у падлеску*. Бары Бабруйскай акругі маюць характар пераходных тыпаў і часам ня маюць аніякіх кустоў.

Яшчэ адна дрэўная парода Беларусі, характэрная для паўночных акруг, шэрая вольха (Alnus incana) адсутнічае на поўдні ў Мазыршчыне ды Бабруйшчыне і зьяўляецца толькі ў сярэдняй частцы Барысаўскай акругі, дзе часта ўтварае формы, мяшаныя з чорнай вольхай (Alnus glutinosa). Шэрая вольха ў межах Барысаўшчыны сустракаецца пераважна ў стане кусткоў або слабых маленькіх дрэўцаў. Тут яе нельга лічыць за такую форму, якая прымае ўдзел у ўтварэньні лясоў. Яна тут грае хутчэй што такую ролю, як пустазельле, і трапляецца на ўскрайках палёў і на ўзьлесьсях.

Такі характар, у вагульных рысах, мае разьмяшчэньне дрэўнай расьліннасьці на абсьледванай мною тэрыторыі БССР.

---

[1]) Паводле даных Пачоскага, адзінае ў Мазыршчыне месца, у якім расьце яленец,—гэта аколіцы в. Барбараў на беразе Прыпяці.

Апрача лясоў, вельмі пашыраным тыпам расьліннасьці на Беларусі зьяўляюцца *тарфавішчы*. Дэталёвы разгляд расьлінных асоцыяцый тарфавішчаў не ўваходзіць у заданьні гэтага кароткага нарысу. З гэтай прычыны я абмяжуюся адзначэньнем дзьвёх асноўных, пашыраных на Беларусі балотных формацый.

1) *Сфагнавыя тарфавішчы* з мохам розных відаў Sphagnum і з дрэўнай расьліннасьцю з прыгнечанай балотнай хвоі ды з травамі: падвей (Eriophorum vaginatum), імшарніца (Andromeda polifolia), касандра („балотны верас“, Cassandra calyculata), журавіны (Oxycoccus palustris і O. microcarpa), расіца (Drosera rotundifolia і D. longifolia) і інш.

2) *Гіпнава-асаковыя тарфавішчы* з зялёным мохам розных відаў Acrocladium, Aulacomnium і Drepanocladus. Дрэўная расьліннасьць такіх тарфавішчаў складаецца з бяроз (Betula pubescens, а месцам і B. humilis) і вербаў, а травяністая—з розных відаў асок, сітаў (Juncus) і іншых балотных расьлін, да якіх, напрыклад, належаць: Comarum palustre, бабок (Menyanthes trifoliata), лотаць (Caltha palustris) і г. д.

Можна лічыць за правіла, што сфагнавыя тарфавішчы звычайна ляжаць па зьніжэньнях вадападзелаў з дрэнным дрэнажам, а гіпнава-асаковыя—па схілах рэчных і азёрных далін або па якіх іншых дрэнаваных лагчынах і западзінах рэльефу.

Пры агульным аглядзе абсьледванай краіны можна прымеціць пэўную законнасьць і ў географічным разьмяшчэньні тарфавішчаў Беларусі. Мазыршчына і паўднёва-заходняя частка Бабруйскай акругі ўваходзяць у склад тыповага Палесься, для якога характэрны нізкія берагі рэк, плоскія рэчныя даліны і слаба выяўленыя вадападзелы а ў зьвязку з гэтым вельмі шырокія веснавыя разводзьдзі. У гэтай краіне пераважваюць гіпнава-асаковыя тарфавішчы, а сфагнавыя трапляюцца рэдка. Наадварот, у Бабруйшчыне і ў Барысаўшчыне сфагнавыя тарфавішчы граюць вялікую ролю ў краявідзе.



X

Наш край, 1925, № 2.



# НАШЫ МЯСТЭЧКІ

*(Матэрыялы да географічнага слоўніку[1])*

## Пагост

(або Пагост Ігуменскі, ці Пагост Чэрвенскі),—даўнейшае мястэчка Чэрвенскага (Ігуменскага) павету Менскай губэрні, з 1924 году мястэчка Бярэзыньскага раёну Барысаўскай акругі, з 6 ліпня 1925 году афіцыяльна лічыцца за сяло.

Пагост ляжыць у глухой мясцовасьці палескага выгляду на шляху з Бярэзыня ў Магілеў у 10 в. ад Бярэзыня, каля рэчкі, якую ў кнізе „Россія“ т. IX, выдадзенай пад рэд. Сямёнава-Тяньшанскага назвалі Пагашчанкай, а на месцы і на карце-трохвёрсцы завуць Клявой або Клеўкай.

Здалёку кідаюцца ў вочы царква, азяроды, высокая стромая гонтавая страха старой сынагогі. Шлях з Бярэзіны пераходзіць у галоўную вуліцу Пагосту. Абапал дарогі маленькія вясковыя хаты, крытыя пераважна саломай, часткай гонтай. Уваднэй з такіх хат зьмяшчаецца паштова-тэлеграфнае аддзяленьне з касай ашчэднасьці.

Галоўная вуліца выходзіць на пляц з маленькімі шэрымі крамамі. Прыватных крам толькі тры, затое ёсьць коопэрацыйная крама і склад сельска-гаспадарчага таварыства.

Пасярэдзіне пляцу трыбуна. Тут-жа дэпо вольна-пажарнай каманды ў маленькай убогай пуні. Направа ад пляцу вядуць завулкі да будынкаў сельсавету—былай валасьці, школы і новай Пятрапаўлаўскай драўлянай царквы.

Налева ад пляцу—густа застаўленая хатамі яўрэйская частка Пагосту з трыма сынагогамі. У ваднэй, найменшай, яшчэ й цяпер моляцца мясцовыя яўрэі, у другой зьмясьціўся клюб, у трэцяй—таксама ня моляцца, але яна засталася свабоднай, як найвыдатнейшы помнік пагосцкай мінуўшчыны.

---

[1]) Сакратарыят ЦБК, друкуючы гэтыя матэрыялы, спадзяецца, што раённыя і іншыя мясцовыя краязнаўчыя організацыі зробяць свае ўвагі да матэрыялаў і дапоўняць іх, а таксама будуць прысылаць у ЦБК новыя аналёгічныя матэрыялы.

У гэтай сынагозе—надзвычайна прыгожыя, рэзаныя нажом з дрэва „ómэд“ (месца, дзе стаіць кантар у час набажэнства) і „оран-койдэш“ („сьвятая скрыня“, дзе стаяць скруткі торы). Разьба старая,—вельмі прыгожая і арыгінальная. Орнамэнт багаты і рознастайны. Наверсе—дзьвёхгаловы арол і два буслы; з цэльнага кавалку дрэва зроблены доўгія ланцугі. Кажуць, што сынагога мае 190 год, але старыя дакуманты, у якіх была зазначана ўся гісторыя сынагогі і Пагосту, у 1915 г. былі вывезены ў Ленінград, дзе і знаходзяцца пад аховай яўрэйскай культавой грамады. Раней каля сынагогі ляжаў камень з незразумелым надпісам, нібы то магічным стараславянскім пісьмом. У 1924 г. гэты камень перавезьлі ў Менск у Беларускі Дзяржаўны Музэй.

Пагост—старое, але беднае і мала вядомае паселішча. Лежачы ў глухой беднай мясцовасьці, Пагост меў толькі адміністрацыйнае значэньне, як валасны цэнтр у Забярэзінскіх лясох. Скасаваньне воласьці ў 1924 г. аканчальна падарвала ролю Пагосту.

Насельнікаў у Пагосьце ў 1858 г. было 775, у 1897—1.525, у 1909—1.605, у 1916—1.303, у 1917—1.291 і ў 1924—1.200. Большасьць насельнікаў—сяляне. У 1916 г. толькі 593 чал. ня лічылі земляробства сваім галоўным сродкам да жыцьця. Крам у Пагосьце за першае паўгодзьдзе 1923-24 бюджэтнага году лічылася—8 з абаротамі—17.400 р., а за другое паўгодзьдзе—10 з абаротам—26.798 р. Рамесьніцкіх майстэрань у першым паўгодзьдзі таго-ж году было 4 з вытворчасьцю ў 5.965 р. Сярод саматужнікаў многа гарбароў.

---

## Княжычы

(паводле расійскага правапісу „Княжицы“ і „Княжичи“)—даўнейшае мястэчка, цяпер, згодна загаду ЦВК БССР ад 6 ліпня 1925 году, сяло Магілеўскай акругі і раёну ў 14 вярстах на захад ад Магілеву, на старым шляху з Магілеву ў Галоўчын і Бялынічы, на левым беразе рэчкі Лахвы.

Княжычы, бязумоўна, належаць да вельмі старых славянскіх паселішчаў, і ўжо дужа даўно на іх месцы або дзесь побач знаходзіўся пасёлак, бо за поўвярсты ад Княжыч управа ад дарогі на Магілеў ёсьць курганная група, у якой большасьць курганоў разворана, але й дагэтуль захаваліся цэлымі 1 вялікі і 4 малыя курганы.

Народнае паданьне гаворыць, што калісь на месцы цяперашніх Княжыч быў толькі двор, у якім жыў нейкі князь, і каля двара было некалькі дамоў. Пасьля сьмерці гэтага князя пасёлак стаў называцца Княжычамі.

У 1501 годзе Княжычы былі перададзены пажыватна жонцы караля Аляксандра—Галене. У 1535 годзе мястэчка было зруйнована і спалена маскоўскім ваяводай князем Шуйскім.

Канстантын Пац залажыў тут дамініканскі кляштар. Пасьля першага польскага паўстаньня гэты кляштар зачынілі, але да 1872 году тут заставаўся ў будынку кляштарнага касьцёлу парахвіяльны касьцёл сьв. Антонія. У 1872 годзе касьцёл перарабілі ў Аляксандра-Неўскую царкву.

Прыгожы белы мураваны будынак гэтай царквы зьяўляецца найлепшай аздобай Княжыч і, разам з тым, галоўным помнікам старасьветчыны. Высокія вежы былога касьцёлу можна ўбачыць за некалькі вёрст

ад мястэчка. Побач з дзьвюма пярэднімі вежамі старога касьцёлу над царквой уздымаецца пазьнейшы, дароблены праваслаўнымі купал.

У царкве ёсьць многа досыць старых абразоў, а таксама эвангельле з часоў Аляксея Міхайлавіча, але прыгожыя фігуры, якія аздаблялі раней касьцёл, разьбіты першым мясцовым папом Константынам Савінічам, які стараўся зьнішчыць усё, што гаварыла аб каталіцтве. Перад царквой знаходзяцца багатыя надмагільныя помнікі. На адным з іх напісана: „Marszałek P-tu Mohilewskiego Więcławowicz Daniel. 1840“. Пад другім помнікам пахавалі пазьней магілеўскага губарнатара Аляксандра Пятровіча Беклямішава, які памёр у 1868 г. Побач з царквой, захаваліся рэшткі кляштарных муроў. Частка кляштару з драўлянай прыбудоўкай служыла папоўскім домам. Цяпер там зьмясьціўся сельсавет.

Апрача былога касьцёлу, у Княжычах ёсьць яшчэ адна шэрая драўляная Пятрапаўлаўская, даўнейшая вуніяцкая царква, але абедзьве царквы належаць да аднэй парахвіі. Узімку з 26 лістапада да вялікадня правяць набажэнства ў Пятрапаўлаўскай царкве, улетку служба адбываецца ў Аляксандра-Неўскай.

Ёсьць у Княжычах і сынагога.

Самае мястэчка складаецца з дзьвёх галоўных вуліц. Адна з іх пачынаецца каля былога касьцёлу ў відзе шырокага пляцу і, паступова звужваючыся, цягнецца на захад. На гэтай вуліцы знаходзяцца бадай што ўсе княжацкія крамы ў шэрых аднапаверхавых драўляных будынках базарнага выгляду.

Упіраючыся ў яўрэйскія могілкі, гэтая вуліца адхіляецца ўправа і пераходзіць у дарогу на Бялынічы. Другая вуліца цягнецца пад простым кутом да першай і праходзіць ад Магілеўскага шляху каля абедзьвюх цэркваў у кірунку дарогі на Галоўчын.

Апроч таго, асобна, прыблізна ў вярсьце ад Княжыч, ляжаць залюдненыя сялянамі прадмесьці: Горная вуліца і Нізкая вуліца. Тамтэйшыя сяляне раней мелі мала зямлі, але цяпер атрымалі даўнейшыя панскія палі.

З 1861 году ў Княжычах ёсьць сельская школа, цяпер перарobленая ў трохкомплектную прымітыўку. Апроч таго, у восені 1925 году адчыняецца школа сялянскай моладзі, да якой павінен адысьці даўнейшы панскі сад.

Да 1924 году мястэчка Княжычы было валасным асяродкам. Застаўшыся пасьля раёнаваньня БССР толькі цэнтрам сельсавету, мястэчка страціла сваю вагу. Між іншым, зачынілася і мясцовая больніца. Аднак, жыцьцё ня зусім заглохла ў мястэчку. Сіламі культгуртка і комсамолу ад часу да часу ставяцца спэктаклі ў будынку Народнага Дому.

Досыць бойка гандлююць мясцовыя крамы. У першае паўгодзьдзе 1923-24 бюджэтнага году ў Княжычах лічылася 28 крам, абарот якіх дасягаў 15.000 рублёў, а за другое паўгодзьдзе—18 крам з абаротам у 21.513 р. Найбайчэй гандлююць дзьве коопэрацыйныя крамы.

Коопэрацыйнае таварыства адчыніла ў Княжычах і сыраварню, якая пастаўляе сыр у Магілеў. Прамысловасьць мястэчка слабая. У 1923 г. тут лічылася 9 розных прамысловых прадпрыемстваў, абарот якіх за паўгодзьдзе дасягаў 6.315 р.

Аб ліку насельнікаў у Княжычах ёсьць даныя з 1858 году („Городскія поселенія Рос. Имп.“), калі там было 625 душ. У 1897 годзе перапіс паказаў у Княжычах 731 насельн., у 1920—666, у 1923—771, з якіх 346

здабывала сродкі ад нясельскіх заняткаў. Апрача таго, у прадмесьцях Горнай вуліцы жыве 281 чалавек, а ў Нізкай вуліцы—235 душ. Разам з прадмесьцямі Княжычы налічваюць 1.287 насельнікаў.

Досыць бойкі гандаль у параўнаньні з малым лікам нясельскага люду тлумачыцца заможнасьцю аколічнага насяленьня. Зямля ў аколіцах пераважна сугліністая, урадлівая. Месцам можна сеяць год у год жыта ў працягу 9 год. Зразумела, што аколічныя хутаране жывуць заможна і даюць гандляваць княжыцкім крамнікам.

Разьвіцьцю гандлю ў мястэчку ў свой час, мусіць быць, дапамагло палажэньне на дзьвёх важных гандлёвых дарогах, якія йдуць ад Магілеву і тут разыходзяцца на Бялынічы і на Галоўчын. Пакуль што гэтыя дарогі яшчэ ня зусім страцілі сваё значэньне, бо ў гэтым кутку Магілеўшчыны чыгунак няма. Для далейшага разьвіцьця Княжыч пакуль што няма даных, але пакуль ня зьменяцца сучасныя дарожныя адносіны, яны ня могуць аканчальна заняпасьці.

(Глядзі: Семенов—„Россія“, т. IX, ст. 478; „Słownik geograficzny“, т. IV, ст. 196).

---

## Бярэзынь

(паводле расійскай номэнклятуры „Березино“ або „Нижнее Березино“)—мястэчка былой Менскай губэрні, Чэрвенскага павету, Пагосцкай воласьці, з 1924 году асяродак Бярэзыньскага раёну Барысаўскай акругі. Гэты раён, самы паўднёвы ў акрузе, ляжыць абапал ракі Бярозы, абымае 1.854 кв. клм. і налічвае 47.409 насельнікаў.

Самае мястэчка ляжыць на правым беразе Бярозы, у 65 вёрстах ад Барысаву і ў 110 вёрстах ад Менску. Бліжэйшая станцыя чыгункі—Градзянка—ляжыць вёрст за 30 ад мястэчка. Пры гэтым цягнікі па Градзянскай ветцы ходзяць вельмі неакуратна, а каб праехаць з Градзянкі ў Менск ці яшчэ куды, трэба мець перасядку ў Верайцох. Зразумела, што насельнікі Бярэзыню едуць у Менск і ў іншыя гарады пераважна цераз Барысаў або цераз Бабруйск, з якімі мястэчка зьвязана правільнымі параходнымі рэйсамі па Бярозе.

З Менску цераз Сьмілавічы і Чэрвень ідзе на Бярэзынь і далей на ўсход на Магілеў стары шлях, які тут перасякае раку Бярозу.

Здаўна цераз раку тут была паромная пераправа. У 1916 годзе тут пабудавалі мост, але ў 1919 годзе, у час вайны з Польшчай, гэты мост спалілі і цяпер карыстаюцца часовым плывучым мастом, побач з якім будуюць новы сталы мост.

Мястэчка Бярэзынь цягнецца з паўдня на поўнач уздоўж ракі і складаецца з некалькіх прадоўжных вуліц, злучаных папярочнымі завулкамі. У паўночнай частцы мястэчка Бяроза мае нізкі правы бераг, і там пасярэдзіне ракі ляжыць досыць вялікі востраў.

У паўднёвай частцы Бярэзыню ляжыць былы маёнтак, які да рэволюцыі належаў да графа Патоцкага. У гэтым маёнтку, побач з дворнымі будынкамі, уздымаецца комін даўнейшага бровару. Цяпер гэта паравы млын, які ўзімку, апрача таго, зьяўляецца электрычнай станцыяй і дае электрычнае сьвятло для ўсяго мястэчка.

Побач з гэтай фабрыкай, над самым берагам Бярозы, над стромым абрывам уздымаецца досыць прыгожы белы двохпаверхавы палац Патоцкіх, папсаваны абстрэлам у 1919-20 гадох, але адрэмантаваны ў 1924 годзе. Цяпер там зьмяшчаецца дзіцячы гарадок для 150 дзяцей

з Бярэзыньскага і з суседніх раёнаў. Пры дзіцячым гарадку ёсьць 4 дзесяціны ворнай зямлі, $6^1/_2$ дзес. сенажаці, 4 каровы, сьвіньні і г. д. Улетку частка дзяцей жыве ў лягеры на сенажаці, вярсты за 2 ад мястэчка. Пры гарадку ёсьць шавецкая, кравецкая і сталярная майстэрні. Апошняя працуе вельмі энэргічна і выробляе для ўсіх школ Бярэзыньскага раёну школьныя лавы. Каля палацу ў маленькім парку ёсьць пляцоўка для заняткаў фізычным выхаваньнем. Аднак, вялікі былы панскі сад і ліпавыя прысады пры ім, што аддзяляюць маёнтак ад мястэчка, знаходзяцца ў карыстаньні Бярэзыньскай савецкай гаспадаркі і аддзелены ад дзіцячага гарадка высокім плотам.

Каля былога маёнтку пачынаюцца дзьве найважнейшыя вуліцы мястэчка. На аднэй з іх—Чэрвенскай—пры самым уезьдзе ў Бярэзынь у прыгожым драўляным будынку з мэзонінам знаходзіцца Раённы Выканаўчы Камітэт. Трохі далей на поўнач на гэтай-жа вуліцы стаіць паштова-тэлеграфнае аддзяленьне з касай ашчэднасьці пры ім, народны дом і галоўны з будынкаў сямігодкі, каля якога на дзядзінцы стаіць высокі добры ветрамер.

У Бярэзыньскай сямігодцы вучыцца 360 вучняў, з якіх 76 прыходзяць з дзіцячага гарадка. Апроч беларускай сямігодкі, у мястэчку ёсьць польская і яўрэйская прымітыўкі.

Другая вуліца, роўналежная першай, ідзе бліжэй да ракі. На ёй знаходзяцца аптэка, царква з асобнай званіцай, вялікая каменная сынагога, разам з якой у вадным будынку знашлі сабе месца крамы і склады. Апрача таго, у ваднэй з хат часова зьмяшчаецца касьцёл, бо стары будынак касьцёлу, пабудованы ў 1641 г. Лявонам Сапегай згарэў. у 1914 г. і ад яго засталіся толькі рэшткі мураваных слупоў, званіцы

Сынагог у Бярэзыні тры. Апроч мураванай, ёсьць яшчэ адна маленькая і аднав ялікая драўляная, да якой не дайшоў пажар 1914 году, бо яна стаіць за адным з двох ручаёў, што перасякаюць мястэчка.

Наагул усё мястэчка мае выгляд пустога і апушчанага, тады як да 1914 году яно спрачалася з Чэрвенем за першае месца сярод паселішчаў тагачаснага Чэрвенскага павету.

У 1914 годзе выгарала большая частка Бярэзыню. Гавораць, што ў час гэтага пажару цяплыня адчувалася за вярсту. У час польскай окупацыі ў 1920 г. былі зьнішчаны яшчэ многія будынкі, і мястэчка апусьцела. Цяпер паўсюды раскіданы пусткі, і рэштკі зруйнованых комінаў сьведчаць аб былой велічыні Бярэзыню. Патроху насельнікі пачалі будаваць новыя дамы, але на месцы будынкаў гарадзкога тыпу павырасталі толькі вясковыя хаткі. Толькі вольна-пажарнае таварыства, замест старога драўлянага дэпо, збудавала новы мураваны будынак. Апрача гэтага будынку, сынагогі і палацу, ёсьць яшчэ каменная лазьня. Усе іншыя будынкі—драўляныя. Па адных перапісу 1923 г. усіх жылых будынкаў у бярэзыні 389.

Зрабіўшыся ў 1924 г. асяродкам вялікага раёну, Бярэзынь пачаў аджываць. Раённыя ўстановы прынаджваюць сюды многа народу па розных справах, і гэта спрыяе разьвіцьцю местачковага гандлю. Тут ёсьць раённая міліцыя, нарсуд, раённая больніца ў прадмесьці і г. д. У вапошнія часы ў мястэчку зрабілі маленькі бульварчык, на якім тры разы ў тыдзэнь грае оркестр вольна-пажарнай каманды.

Гісторыя Бярэзыню небагата здарэньнямі. Калісь ён належаў да Любашанскага староства. У 1708 г. цераз мястэчка перайшоў Кароль XII, які, жадаючы абмінуць Барысаў, 16 і 17 ліпня перавёў тут свае войска цераз Бярозу („Россія", т. IX, ст. 524).

У 1858 годзе ў Бярэзыні было 1.086 насельнікаў, у 1897—4.871, а ў 1909—4.264. Перапіс 1916 г. паказаў тут толькі 2.428 насельнікаў, у 1917 іх засталося 2.162, у 1919 было 2.582 і ў 1923—2.263. Даныя камісіі па раёнаваньні ў 1924 г. паказалі ў мястэчку 2.191 насельн., а ў двары—131.

Паводле даных 1923 г., 1954 душы жыло за кошт розных ня сельскіх заняткаў, і запраўды, сельскія занядкі тут граюць вельмі малую ролю. У гэтым лёгка ўпэўніцца, напрыклад, з даных аб колькасьці свойскай жывёлы ў мястэчку. У 1923 г. у Бярэзыні налічылі толькі 59 коняй, 293 штукі быдла, 73 сьвіньні і 8 авечак ды коз. Нават меншыя суседнія мястэчкі маюць многа больш жывёлы (у Пухавічах, напрыклад, коняй у 4 разы болей, быдла—у 2 разы, авечак—у 18 раз).

Насельнікі Бярэзыню займаюцца пераважна рамествамі і гандлем. Тут лічыцца 13 прамысловых прадпрыемстваў з поўгадавым абаротам у 19.356 р. Цяпер гэта толькі дробныя майстэрні, сярод якіх 4 цырульні, шавецкія і кравецкія майстэрні. Між тым у пачатку 20 веку тутэйшыя вялікія фабрыкі мелі гадавы абарот у 608.000 р. Крам у мястэчку таксама многа менш, як раней. У 1900 годзе іх было 70 і гадавы абарот іх дасягаў 263.000 р., у 1923/24 бюджэтным годзе засталося толькі 51 з абаротам у 79.170 р. за першае паўгодзьдзе і 106.896 р. за другое паўгодзьдзе.

З 1668 г. Бярэзынь мае прывілей Яна-Казіміра на таргі і кірмашы з 6 па 9 жніўня. Гэты прывілей быў пацьверджаны ў 1746 г. Аўгустам III. Цяпер на кірмаш зьбіраецца народ на „Пятра“, на „Спаса“ і на „зімовага Міколу“.

Па Бярозе мястэчка бойка гандлюе з Бабруйскам і Барысавам. Адсюль вывозяць пераважна дрэва і смаляныя продукты і адпраўляюць іх у прыстані Чорнага і часткай (цераз Бярэзінскі канал) Бальтыцкага мора. Пяньку адпраўлялі ў Рыгу. Зьнізу вадой сюды прывозяць соль, збожжа. Усіх грузаў з прыстані адпраўлялі перад вайной больш за 5.500.000 пудоў, тады як прыбывала ў Бярэзынь болей за 70.000 пудоў. У 1924 г. адсюль адпраўлена толькі 2.000 пудоў, а тут выгружана 23.000 пудоў (у тым ліку 22.000 пудоў солі).

На левым беразе Бярозы супроць Бярэзыню ляжыць прадмесьце Слабада, у якой калісь была суконная фабрыка Патоцкага і жыў даўней панскі лясьнічы. У 1924 годзе там была здароўніца для хворых на сухоты. Каля берагу там калісь капалі вапну.

У ваколіцах Бярэзыню ў лясох гоняць смалу і вырабляюць рагожу.

М. Азбукін.



# КРАЯЗНАУЧЫЯ ЭКСКУРСІІ

**А. Нямцоў**

## Экскурсія вучняў Асіпавіцкай сямігодкі

*(Матэрыялы, прысланыя Асіпавіцкім Раённым Таварыствам Краязнаўства)*

9 ліпня 1925 г., разам з вучнямі Асіпавіцкай сямігадовай школы Буднікавым, Тункелем і Хялмоўскім, я правёў экскурсію ў аколіцы хутару Жужлянка, які ляжыць на беразе ракі Сьвіслачы ў 14 вёрстах ад Асіпавіч. Мэтай нашай экскурсіі было азнаямленьне з так званым „Гарадком“, старасьвецкім умацаваньнем, якое знаходзіцца ў аколіцах Жужлянкі.




Рыс. 1. Плян мясцовасьці, што ляжыць на поўнач ад мястэчка Асіпавічы.

Гэты „Гарадок“ мае выгляд трыкутніка, які ўпіраецца сваім найвастрэйшым рогам у сутоку ручая Жужлянкі і ракі Сьвіслачы. Уся плошча пад Гарадком абымае 1.350 квадр. сажняў. З усходу Гарадок

адгароджан двума насыпанымі дугой валамі і равочкамі, ракопанымі па-за кожным з іх. Равочкі з аднаго боку злучаюцца з далінай ракі Сьвіслачы, з другога боку—з раўчаком, па якім бяжыць ручай Жужлянка. Валы парасьлі кустамі і дрэвамі; знадворны вал каля ракі часткаю развbooран.




Рыс. 2. Плян „Гарадка".

Школьны настаўнік з суседняй вёскі Смык-Слабады гаварыў нам аб гэтым Гарадку наступнае:

„Месца, якое завецца Гарадком, ляжыць каля нядаўна пабудованага хутару Жужлянкі, за раўчаком. На дне раўчака растуць ліставыя дрэвы. На месцы гарадзішча ў зямлі можна прымецiць падмешку вугалю і попелу. Самае гарадзішча і валы разворaны.

Аколічныя сяляне знаходзілі ў гэтым Гарадку касьцяныя пацеркі—рубаватыя і овальныя, але цяпер гэтыя пацеркі згублены. Некаторыя сяляне гавораць, нібы-то там трапляліся, нават, срэбныя круглыя грошы, „яшчэ кацярынінскія". Сяляне вёскі Смык-Слабады—Іван Налівайка 96 год і Цярэнці Налівайка 56 год—зазначалі, што ў розныя часы кожны з іх знайшоў у Гарадку па аднэй палачцы каля аршыну ўдоўжкі, з палец таўшчынёй, „пакручаныя, як вяроўка". Цярэнці прадаў сваю знаходку ў карчме за 3 бутэлькі, а Іван некалькі раз насіў у карчму па кавалку сваёй палачкі і за кожны кавалак браў па аднэй бутэльцы. Мабыць, гэта былі зьліткі (?).

Сяляне кажуць, нібы-то на месцы гэтага Гарадка быў калісь горад Зборск, і, як звычайна, думаюць, што яго зруйнавалі швэды. Замест гораду, з часам была заложана вёска Зборск, якая існуе і цяпер, толькі ляжыць на левым беразе ракі і значна ніжэй.

Каля гарадзішча курганоў няма, але на поўнач ад вёскі Смык-Слабады, на правым беразе Сьвіслачы, супроць в. Зборск, ёсьць каля 20 курганоў, пераважна развораных. Гэтыя курганы ляжаць у вадлегласьці 10-20 крокаў адзін ад аднаго; 12 з іх стаяць групамі (па 2, 3 і 4), іншыя—паасобку.

Перад вайной у гэтай мясцовасьці ўлетку жылі дачнікі, якія рабілі раскопкі і папсавалі курганы. Ці было пры гэтым што-небудзь знойдзена—невядома. Гавораць, што былі знойдзены косткі, старасьвецкія кінджалы, а два гады назад чырвонаармейцы нібы-то выкапалі з аднаго кургана разам з косткамі жалезныя наканечнікі стрэл. Ёсьць яшчэ нечапаныя курганы".

Агледзеўшы Гарадок, мы ўпэўніліся, што ён далёка ня так папсаваны, як гаварыў смык-слабодзкі настаўнік. Разворана толькі частка знадворнага валу.

Зрабіўшы абмеры, мы ўбачылі, што самая пляцоўка Гарадка займае 800 кв. сажняў і ляжыць блізка што на 6 сажняў (5 саж. 2 арш. 9 вяршкоў) вышэй летняга роўню вады ў рацэ. Першы вал мае найвялікшую вышыню каля ракі—5 арш. 14 вяршкоў над пляцоўкай. Другі, знадворны вал,—ніжэй ад першага.

Мы прамерылі вышыню па дзьвёх лініях, паказаных на пляне пунктамі. Проставесны разрэз Гарадка па гэтых лініях можна бачыць на рысунку 3.

СХЭМА РАЗРЭЗАЎ

Разрэз 1ы (з SW на NO)




Разрэз 2і (на SOO)




Рыс. 3.

Пазнаёміўшыся з Гарадком, мы перабраліся праз р. Сьвіслач каля хутару Жужлянка і пайшлі па левым беразе ракі да вёскі Зборск. Па дарозе мы сустракалі некалькі курганоў, малых і вялікіх, і цэлы ўклад „гарадкоў", ад якіх у бок ракі адыходзяць равы. Гарадкі гэтыя цягнуцца адзін за адным аж да хутару „Раньняя-Рэчка", які на топографічных картах завецца „Ораны" або „Вечкі". 5-6 курганоў, якія трапіліся па дарозе ў Зборск, часткаю развораны, часткаю раскопаны.

Апошняй мэтай нашай экскурсіі была царква ў Зборску. Царква гэтая знаходзіцца на насыпаным пляцы і пабудована вельмі даўно. Царкоўны легапіс пачынаецца з 1787 году і да 1836 году напісан

у польскай мове. З летапісу відаць, што царква была вуніяцкай. Пасьля аднаўленьня 1907 году царква выглядае сьветленькай і чысьценькай. Сярод абразоў два намаляваны ў 1837 годзе.




Рыс. 4. Плян царкоўнага пляцу ў Зборску.

Пляц, на якім стаіць царква, абымае 750 кв. сажн. З захаду пляц адмяжоўваецца раўчаком, глыбінёй у 9½ арш.; з усходу—валам, вышынёй у 2 аршыны, і равочкам, які спускаецца ў бок ракі. У паўднёва-заходняй частцы царкоўнага пляцу знаходзяцца 2 нявысокія курганы,




Рыс. 5.

адзін з якіх, на жаль, быў нядаўна раскопан вучнямі зборскай школы. У час гэтых „раскопак“ былі знойдзены чарапкі і косткі. Чарапкі ця-

пер перахоўваюцца, а косткі былі закопаны. Зразумела, што гэтыя раскопкі толькі папсавалі адзін з каштоўных помнікаў старасьветчыны і ня ўнесьлі ніякіх новых ведаў у навуку.

У пачатку бягучага году памёр поп зборскай царквы. Калі яго хавалі і капалі яму магілу ў месцы, адзначаным на рыс. 4 крыжыкам, дык, зьняўшы $1^1/_2$ арш. глебы, работнікі дакапаліся да такога цьвёрдага пласта з вапны і цэглы, што яго прышлося сячы сякерамі. У гэтым цьвёрдым пласьце нябожчыка і пахавалі, бо прайсьці гэты пласт не ўдалося.

Каля царквы паказваюць у рацэ зруб студні (у гэтым месцы Сьвіслач наступае на левы бераг); увесь зруб у вадзе, і толькі ў сухую пару з вады выступаюць слупы і відаць дошкі. Частку дошак настаўнік зборскай школы т. Курыляк зьняў. Выявілася, што дошкі дубовыя, моцныя і добра захаваліся. Аб студні ў рацэ мала хто ведае.

Пад царквой ёсьць склеп з пахаванымі там продкамі мясцовых паноў. Захаваліся пліты з надпісамі. Адчыненага праходу ў склеп няма.

---

**Яз. Троська**

# Шэсьць экскурсій па Магілеву

Магілеўскае Акр. Т-ва Краязнаўства нарыхтавала ў гэта лета шэсьць экскурсій па Магілеву з мэтай лепшага азнаямленьня з помнікамі архітэктуры, скульптуры, малярства і інш., якія сьведчаць аб старасьвецкай культуры краю. На чале экскурсій стаяў кіраўнік гістарычна-археолёгічнае сэкцыі Д. І. Даўгяла, а апошняй экскурсіяй кіраваў С. Крэер.

Магілеў захаваў у сябе і сваіх музэях шмат мастацкіх помнікаў.

*1-я экскурсія.* Перад намі вал—сучасны асяродак места, пункт, на якім ужо з XII веку існаваў магілеўскі замак. Па мяжы былога валу захаваліся толькі рэшткі земляных выступаў. Ад сьцяны, якая ахапляла вал, сьлядоў не засталося.

Удзельнікі экскурсій лёгка маглі ўявіць сябе выгляд Магілеву XVII-XVIII вякоў паводле 2-х старых гравюр, якія знаходзяцца ў Магілеўскім музэі.

*2-я экскурсія.* Брацкі богаяўленскі манастыр ад 30-х гадоў XVI веку. Побач Іванаўская царква 90-х гадоў XVII веку, навокал— брацкія гандлёвыя рады.

Вока экскурсанта можа пацешыцца тут помнікамі беларускай духоўнай і матэрыяльнай культуры старых часоў, як, напрыклад: самабытная архітэктура богаяўленскае царквы, прысадзістых з моцнымі жалезнымі дзьвярмі крам у мураваных радох, разьба іконастасу XVII в., мастацкае малярства абразоў (Брацкі абраз XVII в.) і г. д.

Будынкі царкоўнае беларускае архітэктуры, бляшаныя дахі і муры гандлёвых радоў пачынаюць руйнавацца.

*3-я экскурсія.* За мяжою валу—прадмесьці Школішча і Мікольшчына, дзе захаваліся цікаўныя помнікі рэлігійнага культу на Беларусі ад XVII веку. Няцікаўная з надворнага выгляду старая яўрэйская сынагога ў сярэдзіне аздоблена па сьценах старасьвецкім маляўнічым

мастацтвам. Малюнак на біблейную тэму зроблен мастаком Сэгалем [1]). У малюнку ілюстравана гісторыя вандроўства яўрэйскага народу ад самых старых часоў аж да прыходу іх на Беларусь. Ёсьць самабытныя беларускія пэйзажы. Ня гледзячы на 130 год з дня размаляваньня гэтае сынагогі, хварбы захаваліся добра.

Мікалаеўская царква ад 1680 году вызначаецца разьбой царскіх варот, што гаворыць аб разьвіцьці мастацкага густу магілеўскіх разьбяроў.

Пакроўская царква, якая стаіць блізка ад Мікалаеўскай (збудавана ў 1639 годзе), адрозьніваецца ад папярэдніх сваёй параўнаучай беднасьцю і меншай мастацкай вартасьцю. Царква прысадзістая, невялікая, з нізкімі дзьвярмі і малымі вокнамі. У сярэдзіне захавалася некалькі ўзораў мясцовай малярскай творчасьці: каля левага крыласу абраз Кузьмы і Дзям‘яна ў срэбным убраньні, у маленькай каморцы размалёваны фрэскі на такія тэмы: „Стварэньне сьвету і назовы зьвяроў першымі людзьмі“ і „Уваскрашэньне Язуса“. Аўтары гэтых малюнкаў невядомы.

Пры дзьвярох з усходу ў першы раз заўважана каля порогу пліта ад 1740 году з зробленым памастацку гэрбам (лебедзь) фаміліі Роні і надпісам кірыліцай у стара-беларускай, трохі полёнізаванай мове, дзе гаворыцца аб пахаванай Марыі Роні, якая памёрла „на 21-м року ў паненскім стане будуча“.

*4-я экскурсія.* Тут-жа, на Школішчы, і бышы царкоўны музэй. Маемасьць яго часткаю ўжо перавезена ў будынак магілеўскага аддзяленьня дзяржаўнага музэю [2]). Напэўна, у гэтай вялікай навале абразоў ёсьць цэлыя школы магілеўскага і наагул беларускага мастацтва часоў XVII і XVIII вякоў.

З вялікай колекцыі фігур хрыста, як відаць, тутэйшай работы, выразна высьвятляецца паступовае разьвіцьцё нашага скульптурнага мастацтва. Колекцыі шлюбных вянкоў, карон, званоў, крыжоў, рыз і г.д. зьяўляюцца добрым матэрыялам для навуковага дасьледваньня. Так сама ёсьць тут шмат царкоўных кніг у ц.-сл. і стара-беларускай мовах канца XVI і пачатку XVII вякоў з друкарань Супрасьлю, Вільні, Кіеву, Магілеву і г. д.

*5-я экскурсія.* Помнікі XVIII веку. Тры мураваныя брамы, якія называюцца Кацярынінскімі. З іх толькі адна Кацярынінская, а дзьве належаць да ранейшае пары. Язэпаўскі сабор—памятка спатканьня Кацярыны II з Язэпам Аўстрыяцкім. Ёсьць абразы—портрэты называных „памазанікаў“. Касьцёл Станіслава, бышы катадральны, ад канца XVII веку. У сярэдзіне мастацкі абраз—кароль Ян Казімір III дае зямлю манахам-кармялітам на пабудову кляштару.

*6-я экскурсія.* Дагэтуль былі агледжаны помнікі старасьветчыны, а ў апошняй экскурсіі быў агледжаны вытвар сучаснай культуры—дасьледчая станцыя лекавых расьлін. Станцыя набывае важнае краёвае значэньне. Экскурсія Т-ва Краязнаўства заўважыла, што дзеля большага ўплыву на экономіку краю ў сэнсе зьбіраньня лекавых расьлін станцыі трэба шырэй популярызаваць сваю працу, пераняць бела-

---

1) Сэгаль—родам з Слуцку—продак вядомага сучаснага мастака Шагаля. *Рэд.*

2) У магілеўскім музэі ўсё гэта звалена ў кучу ў маленькай цёмнай кладоўцы. *Рэд.*

рускую ботанічную тэрмінолёгію, надрукаваць элемэнтарны параднік па зьбіраньні дзікіх лекавах расьлін і гадаваньні культурных.

Вось у некалькіх словах аб тым, што і ў якой паступовасьці заўважана ў часе экскурсій па Магілеву. Апрача агледжанага, горад мае яшчэ шмат цікаўных матэрыялаў для краязнаўцаў у галіне сучаснасьці, асабліва ў справе саматужнай вытворчасьці.

З мэтай дапамогі ў грунтоўным вывучэньні сучаснага побыту Акруговае Т-ва Краязнаўства проэктуе шэраг экскурсій у наступным леце.

---

# Бюлетэнь надвор'я ў БССР за верасень 1925 г.

*(Паводле матэрыялаў Мэтбюро пры НКЗБ)*

У працягу ўсяе першае дэкады (першых дзесяцёх дзён) верасьня месяца стан барычнага рэльефу наагул быў такі: на поўдні і асабліва на паўднёвым захадзе Эўропы, а таксама ў Зауральлі і ў Закасьпійскім раёне ціск паветра быў павышаным, а на паўночным захадзе Эўропы—паніжаным. Над паўночна-заходняй часткай Эўропы, дзякуючы шэрагу прычын, разьвіўся і ўвесь час блізка што нярухома стаяў глыбокі баромэтрычны мінімум (цыклён). Захапіўшы Беларусь сваёй паўднёва-ўсходняй часткай, гэты мінімум павінен быў быць і запраўды быў галоўным і рашучым фактарам у ходзе і разьмяшчэньні мэтэоролёгічных элемэнтаў на тэрыторыі БССР. У працягу ўсёй першай дэкады на Беларусі было надвор'е, даволі тыповае для паўднёвага і паўднёва-ўсходняга сэктараў нормальна разьвітага цыклёну. Увесь час тут панавалі вятры SSW і SW румбаў, якія часам дасягалі вялікай сілы; неба, за рэдкімі выключэньнямі, скрозь было пакрыта хмарамі; блізка што кожны дзень крапілі дажджы, якія, наагул, далі досыць вялікую колькасьць ападкаў. Сярэдняя за дэкаду тэмпэратура паветра, пры невялікіх штодзенных яе хістаньнях, была блізкай да нормы. За ўсю дэкаду тэмпэратура паветра нідзе на БССР не падымалася вышэй за 18,4° (Турск) і нідзе ня зьніжалася ніжэй 4,7° (Мар'іна-Горка).

Такі стан барычнага рэльефу, які існаваў у працягу першай дэкады верасьня, ня мог быць трывалым. Мінімум, які панаваў над паўночна-ўсходняй часткай Эўропы, пад уплывам зоны вялікага ціску паветра з паўдня, а таксама пад уплывам арктычных ядзер высокага ціску, пачаў паступова распадацца ў другую палову першай дэкады, патроху адыходзячы на поўдзень. У пачатку другой дэкады гэты мінімум ахапляў толькі невялікую частку Сярэдняй Эўропы, а затым пачаў хутка перасоўвацца на ўсход, даючы дарогу моцнаму ядру вялікага ціску, якое наступала з захаду, мусіць быць, з Азорскіх астравоў. Вынікам гэтых перамяшчэньняў было тое, што 13-га верасьня Беларусь апынулася ў заходняй частцы мінімуму, а 14—16 паступова ў паўночна-ўсходняй і паўночнай частках ядра вялікага ціску. У гэты самы час адбылося значнае зьніжэньне тэмпэратуры пад уплывам раптоўнай зьмены паўднёвых вятроў паўночнымі. 18 і 19 верасьня Беларусь знаходзілася ў паўночнай і паўночна-заходняй частках новага невялікага мінімуму, і дзеля гэтага тут зноў панавалі халодныя паўночныя вятры. Адзначаныя вышэй дынамічныя процэсы выявіліся на Беларусі, як мы ўжо бачылі, у тым, што ў другую дэкаду панавалі пераважна паўночныя вятры, і ночадзенная тэмпэратура паветра была на 1°—2° ніжэй ад нормы. У васобныя ночы тэмпэратура зьніжалася, нават, ніжэй за нуль(—0,3° у Стукачове,—0,5° у Турску,—0,8° у Менску).

## МЭТЭОРОЛЁГІЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА БССР за ВЕРАСЕНЬ 1925 г.

*паводле сярэдніх за дэкады і за месяц*

| Назовы станцый | Акруга | Ціск атмосфэры ў мілім. за мес. | Тэмпэратура паветра C⁰ | | | | | Сума ападкаў у мілім. | | | | Адхіленьне ападкаў ад норм. ў % | Лік дзён з ападкамі за месяц | Хмарнасьць за месяц | Пераважны кірун. ветру за месяц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1-я дэкада | 2-я дэкада | 3-я дэкада | За месяц | Адхіленьне ад нормы | 1-я дэкада | 2-я дэкада | 3-я дэкада | За месяц | | | | |
| Стукачова | Полацкая | | 10,7 | 9,1 | 12,8 | 10,7 | +0,4 | 17,8 | 44,1 | 27,3 | 89,2 | +62 | 22 | 7,5 | Ціха, SW |
| Новае-Каралёва | Віцебская | 759,3 | 10,2 | 8,1 | 12,2 | 10,2 | —0,[illegible] | 23,0 | 16,6 | 27,8 | 67,1 | 0 | 17 | 6,9 | W, SE |
| Лужэсна | „ | | 10,8 | 8,5 | 12,2 | 10,4 | +0,1 | 26,1 | 13,5 | 31,5 | 71,1 | + 7 | 18 | 6,0 | Ціха SW |
| Фатынь | „ | | | | | | | 17,3 | 6,5 | 24,9 | 48,7 | — 6 | 15 | | |
| Княжае | Смаленск. г. | | | | | | | 34,7 | 19,0 | 23,9 | 77,6 | +80 | 19 | | |
| Менск | Менская | 760,9 | 10,5 | 9,0 | 12,4 | 10,6 | —0,9 | 22,4 | 6,6 | 38,9 | 67,9 | +36 | 19 | 7,0 | Ціха, SW |
| Мар'іна-Горка | „ | 759,7 | 11,0 | 9,4 | 12,7 | 11,0 | —0,5 | 16,3 | 12,1 | 25,5 | 53,9 | 0 | 20 | 7,1 | SW, WSW |
| Жорнаўка | „ | | 10,8 | 9,5 | 13,0 | 11,1 | —0,4 | 25,7 | 19,8 | 20,6 | 66,1 | +32 | 12 | 6,5 | |
| Капацэвічы | Слуцкая | | | | | | | 16,2 | 13,3 | 44,4 | 73,9 | +42 | 16 | | |
| Магілеў | Магілеўск. | 759,7 | 10,7 | 9,1 | 12,8 | 10,9 | —0,7 | 24,5 | 30,4 | 36,9 | 91,8 | +66 | 15 | 7,0 | SSW, WSW |
| Турск | Бабруйская | | 11,7 | 9,7 | 13,2 | 11,5 | —0,5 | 23,8 | 30,9 | 31,4 | 86,1 | +60 | 18 | 6,5 | SW, W |
| Салонае | „ | | | | | | | 7,5 | 12,0 | 25,6 | 45,1 | —16 | 16 | | SW, SSE |
| Андрэеўка | „ | | | | | | | 19,3 | 12,2 | 46,2 | 77,7 | +28 | 16 | | |
| Кацуры (Паўкашара № 16) | Мазырская | | | | | | | 40,9 | 15,8 | 19,8 | 76,5 | +25 | 16 | | |
| Колкі | „ | | | | | | | 16,8 | 21,0 | 20,2 | 58,0 | — 8 | 9 | | |
| Ст. Птыч | „ | | | | | | | 26,8 | 23,4 | 21,7 | 71,9 | +16 | 17 | | |
| Лучыцы | „ | | | | | | | 20,6 | 11,5 | 14,4 | 59,5 | — 5 | 15 | | |
| Сярэднія па Беларускай ССР | | 759,9 | 10,8 | 9,0 | 12,7 | 10,8 | —0,3 | 22,3 | 18,3 | 28,2 | 69,5 | +24,6 | 16 | 6,8 | |

Хмарнасьць была сярэдняя, і толькі месцам вышэй за сярэднюю. Ападкаў выпала трохі меней ад нормы, за выключэньнем Стукачова, Магілеву і Турску.

У трэцюю дэкаду, за выключэньнем 28—30 верасьня, Беларусь была ў паўночным і паўночна-заходнім краёх таго вялікага ціску, які панаваў у працягу ўсяе дэкады над паўднёвай паловай Усходняй Эўропы. Гэтым тлумачыцца тое, што ў гэты час на тэрыторыі БССР панавалі паўднёвыя вятры, хмарнасьць была досыць малой і лік дзён з ападкамі таксама малы. Але ў працягу нямногіх дзён ападкаў вылілася за трэцюю дэкаду верасьня болей, чымся ў кожную з дзьвёх першых дэкад. Наагул ападкаў у гэтую дэкаду было болей ад нормы. Болей як на 2° перавысіла норму і сярэдняя за дэкаду ночадзенная тэмпэратура паветра. Ночадзенныя хістаньні тэмпэратуры былі вялікімі. Былі дні, калі тэмпэратура дасягала 23° (Стукачова і Мар'іна-Горка), але здараліся дні, калі яна зьніжалася да 1,5° (Турск, Менск і Мар'іна-Горка).

Наагул, верасень месяц 1925 г. на тэрыторыі БССР быў дажджыстым і не такім цёплым, як звычайна. Хаця ў сярэднім за месяц пераважвалі паўднёвыя вятры, але сярэдняя месячная тэмпэратура паветра была блізка што паўсюды на некалькі дзесятых градуса ніжэй нормальнай (сярэдняй за многа год). Пры гэтым асабліва халоднай была другая дэкада. Зусім ясных дзён за месяц было ня больш за 5, зусім хмарных—каля 15, а з ападкамі 15—22, што, зразумела, не магло не пашкодзіць сельска-гаспадарчай працы. Ападкаў паўсюды ў БССР вылілася болей ад нормы на 30—60%, за выключэньнем Віцебскай і Мазырскай акруг, дзе яны выліліся ў нормальнай колькасьці, і Пухавіцкага раёну, дзе іх было трохі болей ад нормы. Навальніц было мала, а калі яны і былі, дык толькі ў некаторых асобных раёнах.

---

# АНКЕТЫ, ПРОГРАМЫ І ІНСТРУКЦЫІ

Праф. Б. К. Тэрлецкі

## Кароткая інструкцыя да зьбіраньня вестак аб некаторых глінах, пяскох і каменьнях Беларусі

### § 1. Што трэба ведаць аб прыродных мінэральных багацьцях і дзеля чаго гэтыя веды патрэбны

Прыроднымі мінэральнымі багацьцямі, мінэральным сырцом або наагул карыснымі выкапнямі называюць розныя руды (напр., алавяныя, мядзяныя, жалезныя і інш. руды), *а таксама розныя прыродныя матэрыялы* (як, напрыклад, каменны вугаль, нафта, каменная соль, некаторыя каменьні, пяскі і гліны), якія пры патрэбе могуць пайсьці на ўжытак.

Рэдка такі сыры матэрыял, здабыты з зямлі, адразу ўжываецца; звычайна яго апрацоўваюць рознымі спосабамі і толькі тады дастаюцца з адных мінэралаў (з руд, напр.) мэталі, з іншых—рознастайныя нэмэталёвыя матэрыі, якія ўжываюцца чалавекам для сваёй карысьці.

*Каб умець з карысьцю для чалавека ўжываць які-колечы мінэральны сырэц, аб ім трэба шмат ведаць. Вось галоўнае, што раней за ўсё трэба ведаць:*

*1) У якіх мясцох мінэральны сырэц ужываецца*, дзе ён у зямлі ляжыць і на якой глыбіні (гэта трэба ведаць, каб потым ня шукаць зноў, калі трэба будзе, а адразу пайсьці ў пэўнае месца для яго здабываньня).

*2) Якімі карыснымі або шкоднымі асаблівасьцямі мінэральны сырэц вызначаецца* (гэта трэба ведаць, каб разумець, для якой справы можна яго ўжываць, як яго апрацоўваць і г. д.).

*3) Колькі такога мінэральнага сырцу ў розных мясцох знаходзіцца*, г. зн. вялікія або малыя запасы яго ляжаць у зямлі (гэта трэба ведаць, каб меркаваць—ці хопіць пры выпадку мінэральнага сырцу з аднаго месца, або трэба адкуль-небудзь яго дастаць).

Усё гэта, што вы зараз прачыталі, трэба было заўсёды добра ведаць аб мінэральных багацьцях кожнага краю дзеля таго, што пры патрэбе ў іх, у кожным разе выгадней для мясцовага насельніцтва і таней для дзяржавы браць мясцовае дабро, чымся везьці яго з далёкіх краін Савецкага Саюзу.

Рознастайныя веды аб сваіх мясцовых карысных выкапнях важны яшчэ і таму, што яны будуць дапамагаць падняцьцю існуючай ужо саматужнай зямлякапальнай прамысловасьці. Дзяржаве-ж такія веды патрэбны, каб паказаць, якія багацьці ёсьць на Беларусі, і пры плянаваньні народнай гаспадаркі, дзе, такія зямлякапальныя промыслы трэба падтрымліваць і разьвіваць дзе будзе выгадней, таней і зручней усяго будаваць новыя фабрыкі, пракладваць новыя шляхі і г. д.

Вось чаму ўжо ў гэтым годзе, улетку, вучоныя геолёгі абыходзілі і аб'яжджалі усе куткі Беларусі, аглядалі і вывучалі на месцы яе пры-

родныя мінэральныя багацьці, зьбіралі узоры розных прыродных матэрыялаў, каб у восень і ўзімку вывучыць іх і злажыць патрэбную для Беларусі справачную кнігу. Гэта праца будзе праводзіцца і ў наступным годзе.

### § 2. Якім чынам могуць памагчы ў гэтай справе мясцовыя культурныя сілы

У гэтай важнай дзяржаўнай справе мясцовыя культурныя працаўнікі могуць шмат дапамагчы профэсарам і інжынэрам. *Яны могуць прысьпешыць справу вывучэньня, калі дакладна пакажуць, дзе ў іх мясцох знаходзяцца розныя карысныя выкапні.* Аднак, трэба пры гэтым, хоць каротка, *апісаць усе карысныя выкапні нашых мясцовасьцяй.* Ніжэй, у §§ 3 і 4, паказваецца, на якія запытаньні трэба адказваць пры апісаньні. Гэткае апісаньне паможа вынаходцу зразумець, аб чым пішуць мясцовыя працаўнікі ў сваіх паведамленьнях, калі яны называюць, напрыклад, мясцовыя карысныя выкапні ня так, як гэта прынята ў навуцы.

*Толькі гэта і трэба ад мясцовых культурных працаўнікоў. Але гэта зусім ня простая справа.* Трэба падумаць, распытаць тутэйшых людзей, самому паглядзець і даваць такія весткі, якія-б былі каштоўны для будучых вынаходцаў.

У провінцыі, на мясцох, нават у кожнай вёсцы, захоўваецца шмат ведаў аб сваёй мясцовасьці і, між іншым, сваіх мінэральных багацьцях. Тутэйшыя людзі далі мясцовыя назвы сваім „землям“, „грунтом“ і „каменьням“. Аднак, рэдка калі наша провінцыя ведае запраўднае ўжываньне таму, што ёсьць у яе зямлі і не заўсёды разумна выкарыстоўвае сваё прыроднае дабро. Вучоны-ж і практычны чалавек адразу зразумее і пакажа, што для чаго прыгодна.

### § 3. Што трэба ведаць пры складаньні адказаў

Тут даюцца кароткія весткі, якія павінны дапамагчы мясцоваму культурнаму працаўніку пазнаваць і адрозьніваць грунты і каменьне: 1) або па розных знадворных прыметах; 2) або па тым ужытку, для якога дастасоўваюць грунты і каменьне на Беларусі.

1. **Пескавік**—цьвёрды камень. Зложаны з паасобных пясчынак (адгэтуль і назва), шчыльна злучаных разам якім-небудзь склейваючым матэрыялам. Гэты склейваючы матэрыял або, як яго інакш называюць, „цэмэнт“, можа быць вапняковым, жалезістым, глінiстым і іншым. Звычайна *пескавік з вапняковым цэмэнтам* мае тут сьветла-шэры колер (ён сычыць, калі на яго капнуць саляным ці воцтавым квасам), а *пескавік з жалезістым цэмэнтам* мае зьменны колер, ад жоўтага да чорна-бурага. *Гліністы пескавік* звычайна можна пазнаць дзеля таго, што ён бывае мякчэйшы, чымся іншыя пескавікі, а галоўнае, што ён аддае гаркаватым („гліняным“) пахам, калі на яго дыхнуць і зараз-жа панюхаць.

У розных пескавіках паасобныя пясчынкі або „зярняты“ бываюць рознай велічыні і рознага колеру. *Па велічыні зярнят адрозьніваюць*: 1) *дробна-зярновы пескавік*, калі зярняты меншыя за звычайную шпількавую галоўку; 2) *сярэдня-зярновы*, калі зярняты роўны шпількавай галоўцы і 3) *буйна-зярновы*, калі зярняты—як пшанічнае зярнё і больш.

Часта здараецца, што ў адным і тым-жа пескавіку велічыня і колер зярнят бываюць розныя. *Тады пескавік трэба называць па велічыні зярнят пераважнай колькасьці*, а наконт іншых зярнят прыходзіцца паказаць, большыя яны ці меншыя, чымся тыя, што пераважваюць.

Таксама і *цьвёрдасьць пескавікоў бывае розная. Пухкімі пескавікамі* называюцца такія, якія лёгка ламаюцца і крышацца рукамі.

Тут, на Беларусі, часам спатыкаюцца так званыя *гляўконітавыя пескавікі* (і пяскі). Яны маюць яскравы зялёны колер таму, што ў іх ёсьць асаблівая мінэральная складаная матэрыя—гляўконіт, якую можна часам пабачыць простым вокам, у выглядзе круглястых зялёных зярнят. *Калі ў пескавікох (і пяскох) ёсьць шмат гляўконітавай матэрыі, дык іх часам распрацоўваюць для вырабу асаблівай зялёнай фарбы і для атрыманьня глебавага ўгнаеньня. Зварачайце асаблівую ўвагу на гэтыя каштоўныя выкапні.*

2. **Жорнавы камень**—*дробна-зярновы або сярэдня-зярновы* пескавік (толькі ня глініcты). Ён павінен быць *надта цьвёрдым*, складаецца з *зярнят аднаковай велічыні і не павінен мець пабочных цьвёрдых уключэньняў*. Ідзе на млынавыя жорны.

3. **Тачыльны камень** (брускавы камень)—ідзе на прыгатаваньне тачыльных брускоў, колаў і г. д. Гэты *дробна-зярновы пескавік* павінен быць надта цьвёрды, чысты і аднародны, г. зн. зусім ня мець пабочных уключэньняў, зярняты павінны быць *дробныя, аднаковыя па велічыні.*

4. **Крамень**. *Гэты вельмі цьвёрды камень* зьлёгку драпае сталёвую пласьцінку (напр., лязо нажа), калі правесьці вострым канцом яго па пласьцінцы. *Крамень бывае рознага колеру* (жоўтага, шэрага, мутна-бурага, чорнага і г. д.). Тут, на Беларусі, ён спатыкаецца асобнымі галкамі і кавалкамі (часам, зусім круглымі) паміж глін. Ужываецца для высяканьня агню пры помачы сталёвага крэсіва, для разьмякчэньня гліны і іншых матэрыялаў, на млынох і драбілках; патоўчаны на дробны парашок ужываецца часам пры шліфаваньні.

Старадаўныя людзі (нашыя першабытныя продкі) рабілі з яго свае прылады: нажы, тапары, наканечнікі дзідаў, стрэл і іншыя прадметы, яны яшчэ ня ведалі мэталёвых струмантаў. Дзеля гэтага яны абівалі крамень, і ён рабіўся вострабокім, Тут, на Беларусі, вельмі часта знаходзяць такія каменныя прылады нашых далёкіх продкаў. Мясцовае насяленьне называе іх „грамовымі“ або „пяруновымі стрэламі“. Вясковыя кабеты думаюць часам (разумеецца, абмылкова), што, гэта—лекавыя каменьні, і лечаць імі кароў, прыкладваючы „пяруновыя стрэлкі“ да хворага вымені. *Трэба гэтыя прылады першабытных людзей сабраць* і адаслаць у музэй.

5. **Інфузорная зямля і земная мука** (трэпел). Гэтыя дзьве пароды вельмі падобны адна да аднэй і простым вокам іх нельга, нават, адрозьніць. *Абедзьве пароды складзены з крамяністай матэрыі* і бываюць белага, жаўтаватага, шараватага і чырвонаватага колеру. Яны *вельмі пухкія, лёгка* рассыпаюцца і *расьціраюцца пальцамі ў вельмі дробны і мяккі на вобмацак парашок*; часам, калі добра прыглядзецца, можна заўважыць, што гэтыя пароды складзены з надта тоненькіх пласьцінак, якія ляжаць адна на аднэй. Штучна можна іх зрабіць такімі, што яны будуць прыгодны для шліфаваньня і паліраваньня імі другіх матэрыялаў.

**Увага:** Трэба памятаць, што з першага погляду непрактычнае вока можа лёгка зблытаць тры рознародныя пароды: 1) *інфузорную зямлю і земную муку*, 2) белую пішучую *крэйду* і 3) чыстую белую гліну (*каолін*).

Аднак, іх зусім няцяжка адрозьніць, іменна так:

Калі вы возьмеце ў руку кавалак *каоліну* і будзеце вялікім пальцам, прыціснуўшы, праводзіць па ім, вам на вобмацак будзе здавацца, што *каолін тлусты,*

як-бы вялікі палец коўзаецца па кавалку цьвёрдага, сухога мыла або па прадмету, памазаным салам; *другія два грунты будуць здавацца пры гэтым зусім* сухімі і парашкаватымі. Апрача таго, *вільготны каолін* плястычны, г. зн. з яго можна ляпіць, а з двух другіх ляпіць нельга, бо яны рассыпаюцца.

Каб адрозьніць *трэпляк* (земную муку) *і крэйду*, трэба капнуць на кожны з іх па кроплі разьведзенага салянога квасу (або звычайнага воцату, а го прост журавіннага соку). Пры гэтым *з крэйды пачнуць выдзяляцца* бурбалкі і будзе ясна чуваць шыпеньне (каб пачуць, трэба паднесьці да вуха), *а трэпляк шыпець ня будзе, і бурбалкі таксама ня зьявяцца*.

6. **Вапняк.** Гэты *цьвёрды камень* лёгка скрабецца голкай або нажом. *Колер бывае розны* (ад белага да чорнага). Вапняк шчыльны, але часта ў ім бываюць шчыліны. Вапняк *сычыць з саляным квасам, са звычайным воцатам* і г. д. і *выдзяляе бурбалкі. Бываюць вапнякі:* 1) глiністыя (іх інакш называюць маргелямі; маргель аддае прыметным гаркаватым *пахам гліны*, калі на яго дыхнуць; апрача таго, ён *ліпне да языка*; 2) жалезістыя (звычайна маюць *жоўты колер*, часам пакрытыя *лёгкім іржавым налётам*); 3) крамяністыя (з вапнякоў *самыя цьвёрдыя і шчыльныя;* пры ўдары яны як-бы зьвіняць і з квасам зусім ня шыпяць). Некаторыя вапнякі прыметна *аддаюць няпрыемным пахам пасьля таго, як іх моцна ўдараюць малатком* і зразу панюхаюць.

Шмат вапнякоў маюць у сабе цэлыя і абломаныя рэшткі морскіх чарапашын. Гэта сталася таму, што вапняк утварыўся з асаблівага „глею“, які асеў з морскай вады на дно мора, што калісьці залiло нашую краіну. Разам з „глеем“ заставаліся на морскім дне чарапашыны памёршых морскіх жывёл.

Вапнякі ўжываюцца пры будоўнай справе, як будоўныя каменьні і як матэрыял, з якога праз абпальваньне робіцца вапна. Некаторыя маргелі ідуць на загатоўку цэмэнту (цэмэнтовы камень), які таксама ўжываецца пры будоўнай справе.

7. **Наздраваты вапняк** („известковый туф“). Па складзе такая самая вапенная матэрыя, як і сам вапняк. Затое *з квасам шыпіць і выдзяляе бурбалкі.* Звычайна гэта *вельмі мяккі камень* (часам, нават, драпаецца пазногцем). Ён *вельмі лёгкі* таму, што ўвесь пранізаны пустотамі і сітавінамі. Дзеля гэтага ён знадворку надта падобны да наздраватае губкі, якую ўжываюць часам пры мыцьці. *Колер яго амаль заўсёды белы*, толькі зрэдка шэры або мутна-буры.

Ён утварыўся не на морскім (або азёрным) дне, як вапняк, а ў выйсьці з-пад зямлі на паверхню некаторых крыніц, у вадзе якіх і была распушчана матэрыя, з якой утварыўся наздраваты вапняк.

Прыгодны для загатоўкі вапны.

8. **Крэйда**. Па складзе тое самае, што і вапняк. *З квасам шыпіць, выдзяляе бурбалкі.* Калі яна сухая, то мяккая (лёгка драпаецца і скрабецца пазногцем) і парашкаватая, а таму пэцкае рукі і пыліць. Пад дажджом размакае і мае выгляд рэдкае кашы. Пры расьціраньні паміж пальцамі застаюцца часам пясчынкі і дробныя, цьвёрдыя камочкі з вострымі канцамі. Часам у крэйдзе пападаюцца галкі каменю.

Крэйда складаецца з дробных чарапашын морскіх жывёл. Яны такія драбнюткія, што простым вокам і разглядзець нельга. Неабходна мець моцнае павялічальнае шкло (мікроскоп).

На Беларусі яе часам называюць „белай глінай“, што няправільна.

Крэйда ідзе на выпальваньне вапны, на падмешку да фарбаў, ужываецца для пабелкі сьцен і г. д.

9. **Камень плітняк** (або каменная пліта) можа быць вапняковым, пескавіковым і інш. *Вельмі важны камень*, ужываецца ў будоўнай

справе, а таксама для тротуараў, для могільных помнікаў (могільнікавы камень).

10. **Брукавы камень** (булыжны камень) ужываецца для брукаваньня вуліц, павінен быць *бяз вострых канцоў*, лепей за усё добра *абкруглены*, велічынёю ня менш чалавечага кулака. *Збываецца ў горадзе.*

11. **Фосфорыты**—цьвёрдыя каменьні (пазногцем ня драпаюцца, але ножыкам скрабуцца і *самі фосфорыты драпаюць мядзяную пласьцінку або монэту).* Звычайна гэта круглякі *цёмнага* (чорна-бурага) *колеру*. Калі разьбіць іх, то можна часам заўважыць, што яны складзены *як-бы з асобных валокнаў*, якія з асяродку кругляка ідуць ува ўсе бакі. Часьцей такія круглякі *пападаюцца асобна ў глінах і пяскох або на дне яроў і рэчак.*

*З іх робяць каштоўнае ўгнаеньне для глебы і знайсьці іх на Беларусі было-б вельмі важна.*

12. **Бурштын** („янтарь“) лічыцца *напалову каштоўным каменем.* Колер яго прыгожы, жоўты. Бурштын можа быць празрысты, як сьвежы мёд, напалову празрысты і нават зусім мутны. Ён *крохкі* (лёгка шчэпіцца) і *мяккі* (лёгка рэжацца нажом, але пазногцем ня драпаецца.

Бурштын гэта застыглая, „скамянелая“ смала старадаўных дрэў. Часам у бурштын пападаюцца пясчынкі, кавалкі дрэва, кузуркі і г. д. На Беларусі ён спатыкаецца невялічкімі няправільнымі кавалкамі сярод глін і пяскоў.

13. **Мэтэорыты** (нябесны камень, зоркавы камень) называюцца яшчэ часам *аэролітамі і падучымі зоркамі.* Яны ўтварыліся не на нашай зямлі, а дзесьці ў нябеснай прасторы. Часта яны складзены амаль з чыстага жалеза. Магчыма, што гэта рэшткі другіх зьніклых нябесных цел. Калі яны пападаюць у земную атмосфэру, то ад трэньня, пры шпаркім палёце, распальваюцца і пачынаюць сьвіціцца ўласным сьвятлом ужо на вышыні 120-150 клм. над земнай паверхняй. Часта, не даляцеўшы да зямлі, яны рассыпаюцца на дробныя скалкі, пасьля чаго бывае часам страшэнны грукат, падобны да ўзрыву, гарматнай страляніны і г. д. *Калі такія каменьні ў вашай мясцовасьці падалі і захаваліся да гэтага часу, то ні ў якім выпадку ня крышэце і ня драпайце іх, а захоўвайце датуль, пакуль не атрымаеце адказу нашых вынаходцаў на ваш ліст (на адрас Інбелкульту).*

14. **Каолін** (белаглін)—гэта *чыстая гліна белага колеру*. У сухім відзе яна *пухкая* і дробназярністая, расьціраецца паміж пальцамі, драпаецца пазногцем. *Роўнамерна-вільготны каолін* робіцца *плястычным* (г. ё. з яго можна ляпіць) і *тлустым* на вобмацак.

Ужываецца для вырабу дарагога парцалянавага начыньня і інш.

Нячысты каолін, дзякуючы прымешкам, набывае розныя адценьні, з якіх таксама робіцца начыньне.

15. **Ганчарныя гліны** маюць розныя колеры (шэры, жоўта-буры, чырвоны і г. д.). Яны значна *менш тлустыя і плястычныя*, чымся каолін, маюць невялікую *прымешку пяску* і іншых матэрый. Прыгодны для вырабу самага таннага начыньня і грубых гляняных вырабаў.

16. **Цагляныя гліны** маюць усялякія колеры. Здаюцца *на вобмацак сухімі, г. зн. ня тлустымі.* Маюць значныя *прымешкі* дробнага і буйнага пяску.

З гэтых моцна-пясковых глін робяць толькі цэглу.

17. **Жалезная вохра** або *фарба*. Гэтая парода мае жоўты ці сьветла-іржавы колер. Парода мяккая (драпаецца пазногцем); на вобмацак парашкаватая, пэцкае рукі. Зьлежаўшыся, робіцца шчыльнай зямлістай масай. Ужываецца, як фарба.

18. **Гутавы пясок** (пясок для вырабу шкла) павінен быць: а) *вельмі дробны* (лепей за ўсё зярняты аднальковай велічыні); б) *зусім белы* (калі пясок жаўтаваты, то ён для загатоўкі шкла няпрыгодны, таму што ён, мабыць, мае жалезістыя матэрыі); в) *зусім чысты ад пабочных прымешак*, г. зн. у ім не павінны быць відны вокам зярняты якога-небудзь другога колеру і бліскучыя пласьцінкі (лушчак).

Такі пясок можна знайсьці паміж глін і пяскоў пад зямлёю, а таксама ў некаторых рэчках і на іх берагох. На Беларусі яго часам называюць „морскім пяском“.

## § 4. Як трэба апісваць каменьні, гліну і пясок, каб іх можна было добра ўявіць сабе па апісаньнях.

Аб кожным з іх трэба запісаць такія весткі:

### А. Каля якога месца карысныя выкапні знаходзяцца?

Каля якога сяла, вёскі, хутара, сядзібы, фальварка, каля якога шляху, якой рэчкі і г. д. *(Паказаць і самую назву гэтага ўрочышча).*

*На якой адлегласьці адгэтуль яны знойдзены?* (Адлегласьць можна паказаць у аршынах, сажнях, вёрстах або проста крокамі). Калі адлегласьць вымерана крокамі, то неабходна паказаць рост таго чалавека, які вымяраў: высокі, сярэдні або нізкі; мужчына ці жанчына (дзеля таго, што крокі маюць розную даўжыню ў розных людзей).

*У які бок ад паказанага месца яны знаходзяцца?* На ўсход, на захад, на поўдзень або на поўнач?

### Б. Дзе карысныя выкапні паказваюцца з-пад зямлі?

На полі. На балоце. На дарозе. На вуліцы. У студні. На абрыве. У берагох рэчкі ці ручаю. На адным іх беразе ці на абодвух?

*Ці высока іх спод над днішчам* студні, абрыву, над вадой рэчкі?

*Ці далёка ад іх да верху* прыбярэжнага абрыву, да зрубу і г. д.

*Ці не паказваюцца карысныя выкапні ў некалькіх мясцох адразу?*

Трэба паказаць усе месцы, дзе іх можна пабачыць і адмераць крокамі адлегласьць паміж імі, а яшчэ лепей нарысаваць самы просты плян на паперы і паказаць на ім гэтыя адлегласьці лічбамі.

### В. Як разьмяркоўваюцца карысныя выкапні ў зямлі?

*Ці не выступаюць яны* ў абрывах берагоў і яроў або студнях *доўгай паласой* (г. зн. пластом) або *няправільнай плямай* (г. зн. гняздом) або толькі *дзе-колечы*, як, напрыклад, каменьне на полі (такія каменьні завуцца ледавіковымі)?

*На якой даўжыні, шырыні і вышыні іх можна бачыць* (даўжыню і шырыню можна вымерыць крокамі, аршынамі, сажнямі, а вышыню, г. ё. тоўшчу,—аршынамі або проста чвэрткамі рукі)?

*Ці ўсюды тоўшча аднолькавая ці яна мяняецца?* Трэба паказаць, на якой адлегласьці і як яна мяняецца.

*Ці ўвесь пласт (або гняздо) можна бачыць* у абрыве берагу (або яру) або ў сьценцы студні? Можа грунт абсыпаўся і ніжняй мяжы ня відаць? Можа зьверху зарасло травой?

**Г. Ці не складаецца пласт з асобных тонкіх пласткоў, г. зн. слаёў?**

Ці ўва ўсім *слаі падобны* адзін да аднаго або чым-небудзь *розьняцца?* Чым розьняцца?

*Ці не распадаецца пласт на асобныя пліты,* пласьцінкі, лісткі? Якая іх тоўшча, даўжыня і шырыня?

*Гладкая або шурпатая паверхня ў пліт, пласьцінак, лісткоў?*

*Ці не стварае пласт стромкіх абрываў?*

**Д. Які колер маюць карысныя выкапні?**

(Як будзеце называць колер камня, гліны і пяску, дык лепш усяго параўнайце яго з колерам якога-небудзь агульнавядомага прадмета).

*Ці ўсюды колер аднолькавы або ён мяняецца?* Дзе мяняецца— зьверху, з бакоў? Адразу мяняецца або паступова?

*Ці не складаецца пласт з рознакаляровых палос* (слаёў). Якая іх тоўшча?

Ці няма *асобных плям* другога колеру? Які гэта колер і якой велічыні плямы?

**Е. Якую цьвёрдасьць маюць карысныя выкапні?**

Папрабуйце, *ці ня драпаюцца яны* пазногцем, вострым канцом мядзянай пласьцінкі, ножыкам або кавалкам шкла.

Папрабуйце, можа *яны самі вострым канцом драпаюць* пазногаць мядзяную пласьцінку (або монэту), ножык, шкло.

Ці ня можна іх расьціснуць, крышыць і ламаць проста рукамі? Лёгка або цяжка? Ці ўсюды *цьвёрдасьць аднолькавая* або ў розных частках ці паасобных слаёх *яна розная?*

**Ж. Ці няма ў карысных выкапнях якіх-небудзь прымешак?**

Напрыклад, у гліне могуць быць прымешкі пяску, каменьня, дрэва і г. д., а ў пяску—гліна, каменьне і інш.

*Як гэтыя прымешкі разьмяркованы?* Усюды аднолькава або ў адных мясцох іх болей, чымся ў другіх?

Ці няма такіх слаёў, дзе прымешак больш і дзе менш? Якія гэта прымешкі? Калі пясок, дык якая велічыня зярна (малая, сярэдняя або буйная)? Калі гэта каменьне, дык якія іх колер і цьвёрдасьць?

*Ці ўсюды прымешкі аднолькавыя або ў некаторых мясцох яны мяняюцца (колькасьцю, колерам, цьвёрдасьцю)?*

*Ці не пападаюцца ў пластох морскія чарапашыны,* „сьлімакі“, *рыбныя косьці і іх луска, косьці дапатопных зьвяроў,* „грамовыя стрэлы“ і г. д.? Многа іх ці яны толькі калі-ні-калі пападаюцца? Дакладна—што?

*Ці не пападаюцца адбіткі расьлін і* зьвяроў *на мяккіх каменьнях? Апошнія маюць асаблівую вартасьць для навукі.*

Ці няма наагул у раёне такіх мясцоў, дзе-б *пападаліся ў каменьнях, глінах і пяскох рэшткі старадаўных зьвяроў? Гэта мае вялікае значэньне для вывучэньня далёкага мінулага Беларусі.*

**З. Ці ёсьць у карысных выкапнях вапенныя матэрыі?**

*Гэта можна лёгка пазнаць такім простым спосабам:* трэба капнуць на камень, гліну ці пясок адну кроплю разьведзенага *саля-*

*нога квасу*. Калі на тым месцы, дзе папала кропля, пакажуцца бурбалкі і пачуецца ціхае шыпеньне, калі паднесьці да вуха, дык ёсьць вапенныя матэры.

Разьведзены саляны квас вельмі часта ёсьць у школах; апрача таго, яго заўсёды можна знайсьці ў аптэках і больніцах. На ўсе досьледы патрэбны 4-5 маленькіх лыжачак разьведзенага салянога квасу.

Калі-ж салянога квасу няма, то яго можна замяніць *звычайным воцатам*. У крайнім выпадку, можна замяніць журавінным сокам, які можна выціскаць проста з ягады. Аднак, пры журавінным соку цяжэй заўважыць бурбалкі і пачуць шыпеньне.

Шыпець будуць вапняк (толькі не краменісты), вапенны туф (але не краменісты), крэйда (гэтыя тры пароды амаль што цалком складаюцца з вапеннай матэры), маргель (зьмешаны з гліны і вапнякоў), некаторыя пескавікі (вапенныя), пяскі і гліны.

### І. Ці няма ў пласьце, што вы разглядаеце, шчылін, дзірачак і пустот або ён зусім шчыльны?

*Ці ўсюды ў пласьце аднолькава многа* (або мала) *пустот*, дзірачак і шчылін, або ў адным месцы многа, а ў другім—мала?

*Як ідуць шчыліны—проста ўверх ці наўкос?*

*Ці шырокія шчыліны? Ці вялікія пустоты?*

Парожнія яны або чым-небудзь запоўненыя? Дакладна—чым (адзначце колер, цьвёрдасьць)?

*Ці не цячэ са шчыліны вада?*

### К. Які гэта пласт—сухі, вільготны або мокры?

Калі гэта *гліна*, ці не здаецца яна вам *тлустай* на вобмацак і плястычнай, г. ё. ці ня можна з яе ляпіць? Або яна *крохкая* з-за прымешак?

Ці ўсюды *пласт аднолькава мокры* (або сухі ці вільготны), ці можа адны слаі яго (або і некаторыя плямы ў ім) сухія, а іншыя вільготныя?

*Ці не расьце на гэтым пласьце плямамі або палосамі асабліва яскрава-зялёная трава?* На якой адлегласьці ад верху або нізу пласта?

Ці ня б'юць з пласта крыніцы? Ці многа іх выходзіць? Ці многа яны даюць вады? Ці ня „кіпяць“ гэтыя крыніцы?

*Які смак вады?* (добры, салоны, горкі і інш.)?

*Ці п'юць гэтую ваду* людзі, коні, каровы?

Ці не дае вада шэрага *накіпу ў самаварах?*

Ці ня мыюць у гэтай вадзе бялізну? *Ці добра мыліцца* пры гэтым мыла?

Адкажэце на такія самыя пытаньні аб вадзе з самых студняў і пакажэце, апрача таго, якой глыбіні вашыя студні, якія грунты даставаліся з самых новых студняў і алкуль пашла вада.

**Л. Ці не заўважваецца ў пласьце** карысных выкапняў, *што цьвёрдасьць, колер, прымешкі і колькасьць вапны, вільготнасьць* і іншае *мяняюцца адначасова*, г. зн. што ў тых, напрыклад, слаёх пласта, дзе больш прымешана пяску, ён макрэйшы, мякчэйшы і мае іншы колер?

### М. Які грунт ляжыць зьверху і які зьнізу?

(Апішэце і іх падрабязна, як паказана ў першых 10 пунктах).

### Н. Дзеля чаго ўжываюцца гэтыя карысныя выкапні ў вашай мясцовасьці?

*Што з яго выраблюць* або выраблялі раней?

*Ці даўно ўжо займаюцца гэтай справай?*

*Ці многа насельнікаў* у раёне *гэтай справай займаецца* (прыблізна). Ці прадаюць здабу? Па якой цане? Якая цана была раней? *Куды возяць* прадаваць (або вазілі)?

*Ці займаюцца гэтай справай* цэлы год або толькі некалькі месяцаў у годзе?

Калі цяпер не займаюцца гэтай справай, а займаліся раней, дык чаму кінулі? Калі кінулі? Дзеля чаго ўжываліся карысныя выкапні раней і куды яны йшлі? На продаж ці для сваіх патрэб? Ці шмат іх здабывалі?

*Як гэтыя карысныя выкапні здабываюць* (або здабывалі раней) у вашых мясцох з зямлі? Капаюць (ці капалі раней) ямы, канавы, „дудкі“ (г. зн. студні) або як-небудзь іначай?

*Калі здабывалі*: улетку, узімку, у восень або ўвесну? Чаму ня ўвесь год?

**О. Як мясцовае насяленьне называе гэтыя гліны, пяскі і каменьне, а таксама тыя з промыслаў, якія тут пералічаны?**

## § 5. Аб кнігах.

*Дадатак 1.* Тут паказваюцца кнігі тых культурных працаўнікоў нашай провінцыі, якія захацелі-б атрымаць *першапачатковыя веды аб тым:*

*Як і калі ўтварыліся* розныя пяскі, гліны і каменьне?

*Як і калі папалі на палі Беларусі* абломкі такіх каменьняў, якіх вельмі многа далёка адгэтуль,—у Фінляндыі і на крайняй поўначы Расіі (у Олонецкай і Архангельскай губэрнях)—і якія залягаюць там часта неперарыўнымі масамі?

*Чаму ў некаторых пластох*, часам глыбока пад зямлёю, *пападаюцца рэшткі морскіх чарапашын, косьці і луска рыб*, а ў другіх пластох *косьці такіх жывёл*, якіх цяпер на зямлі няма.

*Скуль узяліся* жывёлы, якія жывуць цяпер на зямлі?

*Як морскае дно робіцца сухазем‘ем* і як сухазем‘е можа зноў зрабіцца морскім дном?

*Якія моры залівалі калісьці Беларусь і якія жывёлы былі* ў гэтых морах?

*Якія жудасныя і страшэнныя зьявішчы бываюць на зямлі?*

*Як даўно існуе зямля і якія зьмены на ёй адбываліся?*

Тут паказваюцца толькі такія кнігі, якія цяпер лёгка купіць або атрымаць у бібліотэках.

1. **Рубакин Н. А.** *„История русской земли“*. Госуд. Изд-во. Ленинград, 1920 г.
2. Яго-жа *„О великих и грозных явлениях природы“*. Госуд. Изд-во. Ленинград, 1919 г.
3. Проф. **Гейки А.** *„Физическая география“*. Госуд. Изд-во Ленинград 1922 г.
4. **Рубакин Н. А.** *„Подземны огонь“*. Изд. Петр. Сов. Раб. і Красноарм. Депутатов, Ленинград, 1919 г.
5. Проф. **Гейки А.** *„Геология“*. Госуд. Изд. Ленинград, 1922 г.
6. **Рубакин Н. А.** *„Как, когда и почему появились люди на земле“*. Изд. Петр. Сов. Раб. и Красноарм. Депутатов. Ленинград, 1919 г.

*Дадатак 2.* Кнігі для чытачоў, знаёмых з пачаткамі геолёгіі і жадаючых пашырыць свае веды да аб'ёму *ведаў сярэдняй школы* (і болей трохі).

1. Проф. **Нечаев А. В.** *„Минералогия и геология“ для средней школы.* 10-ое Изд. Пероговского Т-ва. Киев, 1919 г.

*) 2. **Боммели.** *„История земли“.* Изд. Вятского Т-ва.

3. Проф. **Павлов А. П.** *„Морское дно“.* Гос. Изд. Москва, 1922 г.

4. Проф. **Гессе.** *„Происхождение видов и дарвинизм“.* Гос. Изд., 1922 г.

*) 5. Проф. **Яковлев Н. Н.** *„Геологическая история животного царства“.* Изд. О. Н. Поповой, С.-Петербург.

6. Проф. **Онучин Д. Н.** *„Происхождение человека“.* Госуд. Изд., 1922 г.

*) 7. **Агафонов В. К.** *„Настоящее и прошлое земли“* (популярная геология и минералогия). 3-е изд. П. Лукавникова. С.-Петербург, 1915 г.

8. Проф. **Павлов А. П.** *„Очерк истории геологических знаний“.* Гос. Изд., 1921 г.

9. Проф. **Вальтер И.** *„Первые шаги в геологии“* (начала геологии). Общедоступное введение *для* ведения геологических наблюдений. Гос. Изд. Ленинград, 1920 г.

*) 10. **Кротков П. В.** *„Как определять минералы“* Практический учебник к исследованию их при помощи *простых* исследований Изд. 2-ое. Книг-ва „Наука“. Москва, 1916 г.

11. **Малиновский Е.** *„Происхождение горных пород“.* Изд. 1922 г. Москва. (Библиотека „Горнорабочего“).

12. **Обручев В.** *„Как образовались горы“.* Москва. 1922 г. (Библиотека „Горнорабочего“).

Кнігі, памечаныя зорачкай (*), даставаць цяжэй за другія. Кніга В. К. Агафонава пад № 7 рэкомэндуецца, як падручнік у некаторых вайсковых школах.

*Дадатак 3.* Кнігі для чытачоў, жадаючых атрымаць сур'ёзныя веды па галіне геолёгічных навук у роўні ведаў вышэйшай школы.

1. Проф. **Нечаев А. В.** *„Минералогия“.* 3-ее изд. Гос. Изд. Москва, 1922 г.

2. Проф. **Лучицки В. И.** *„Курс петрографии“. 2-ое* изд. Гос. Изд. Москва, 1922 г.

3. Проф. **Дэли Р. А.** *„Магматические горные породы и их происхождение“* (перевод А. П. Герасимова). Госуд. Техн. Изд. Москва, 1920 г.

4. Проф. **Яковлев Н. Н.** *„Учебник палеонтологии“ для высшей школы* и самообразования, 2-ое изд. Гос. Изд., 1922 г.

5. Проф. **Ог.** *„Геология“.* Том I. *„Геологические явления“.* Гос. Изд. Москва, 1922 г.

6. Проф. **Борысяк.** *„Палеофаунистика“.*

7. Его-же. *„Курс исторической геологии“* (Геологические периоды). Гос. Изд. Петербург, 1922 г.

8. **Вебер.** *„Полевая геология“.* Изд. 1923 г.

# Апытальны ліст

## для атрыманьня адказаў аб карысных выкапнях (прыродных багацьцях) Беларусі.

**Раней, чымся адказваць, добра азнаёмцеся з паказаньнямі, прыведзенымі вышэй.**

Адказвайце на асобных лістох.

**Калі вы ня можаце даць адказ на ўсе запытаньні, адказвайце толькі на тыя, на якія можаце.**

На версе ліста напішэце назву раёну і сельсавету, у канцы апісаньня ясна напішэце сваё прозьвішча, імя і імя па бацьку і дакладны паштовы адрас.

**Асабліва дакладна і падрабязна апішэце тое месца, дзе знаходзяцца карысныя выкапні.**

**Адказы пасылайце на адрас: Менск, Інстытут Беларускае Культуры, Рэволюцыйная, 21, Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.**

## ЗАПЫТАНЬНІ.

*Ці ёсьць у вашым раёне або побач з ім:*

I. *Іржа (балотная жалезная руда)?*

II. *Якія-небудзь асаблівыя камені, гліна і пясок, напр.:*

1. Пескавік?
2. Жорнавы камень?
3. Брускавы камень?
4. Крамень?
5. Інфузорная зямля і трэпляк, (земная мука).
6. Вапняк?
7. Наздраваты вапняк?
8. Крэйда?
9. Плітняковы камень?
10. Брукавы камень?
11. Фосфорыты?
12. Бурштын?
13. Нябесны або зоркавы камень (мэтэорыты)?
14. Белая гліна?
15. Ганчарная гліна?
16. Цагляная гліна?
17. Жалезная вохра (фарба)?
18. Гутавы пясок?
19. Іншыя асаблівыя гліны, пяскі, каменьне і руды?

III. *Ці ёсьць у вашых мясцох:*

20. Чарапашыны і сьлімакі ў каменьні, пяскох і глінах?
21. Косьці перщабытных людзей і старадаўных зьвяроў?
22. Ці шмат каменьня на палёх?

IV. *Ці ёсьць у вашых мясцох асаблівыя крыніцы?*

23. Лекавыя крыніцы, вадой якіх насельніцтва лечыць хворых? Якія іменна хваробы і як насельніцтва лечыць?
24. Крыніцы салоныя, горкія, горка-салоныя і інш.?
25. Крыніцы, вада якіх пакрывае берагі зямлі пры выйсьці іржою?
26. Крыніцы „кіпячкі“, моцна б'ючыя зьнізу)?

V. *Ці не фарбуюць у вашых мясцох тканіны ў ямах, выкапаных на балоце або яшчэ дзе-небудзь у зям-*

*лі? У які пры гэтым колер фарбуюцца тканіны? Як іменна робіць насельніцтва гэтую фарбоўку?*

*VI. Ці ня сьвідруюць (або сьвідравалі) у вас глыбокія студні? Калі і хто гэта рабіў? Якую глыбіню мела гэткая студня? Якія грунты даставалі з яе?*

*VII. Ці няма ў вашых мясцох новых студняў, выкапаных у 1924 або 1925 гадох? Дзе і калі іх капалі? Якая іх глыбіня? Якія грунты яны прашлі? Ці глыбока стаіць вада ў такой студні? З якога грунту пашла добрая вада? Ці на многа двароў, людзей, галоў скаціны і г. д. хапае вады з гэткай студні? Ці добрая гэтая вада?*

*VIII. Ці няма ў вашых мясцох (або ці ня было раней):*

1. Цаглянога промыслу? Якая выраблялася цэгла? Для якіх будоўляў яна была прыгодна?

2. Ганчарнага промыслу? Якія выраблялiся рэчы? Куды збываліся?

3. Апрацоўкі каменьня? Якое каменьне апрацоўвалася? Што з яго выраблялі? Для сваіх патрэб ці на продаж?

4. Абпальваньня вапны і цэмэнтовага вырабу? Адкуль бяруць матэрыял? Куды ідзе вапна? Для сябе ці на продаж?

5. Шкляных гут? Адкуль бяруць пясок і агнястойкую для печак гліну? Якія рэчы вырабляюцца?

6. Рудняў (дзе здабываюцца карысныя выкапні)? Як здабываюць і ў якім месцы? Увесь год ці толькі частку году?

7. Гісэрняў? Дзе і як здабываюць і выплаўляюць жалезнай руды?

8. Апрацоўкі торфу? На што ідзе гэты торф (на гной, на подсьціл, на апал)? Ці многа здабываюць? Увесь год працуюць пры гэтым ці некалькі месяцаў у годзе? З якога балота? Як здабываюць?

# Програма зьбіраньня вуснае народнае творчасьці.

*(Складзена Літаратурнай Камісіяй Інбелкульту).*

1. Зьбіраньне робіцца праз запісваньне твораў ад народу і пасыланьне запісаў у Інстытут Беларускай Культуры.

## Што трэба запісваць?

2. Запісваць трэба песьні: чырвонаармейскія; палітычныя, рэволюцыйныя, паўстанцкія; прыпеўкі фабрычныя, сялянскія і ўсякія іншыя, калядныя, масьлянкавыя, веснавыя, вялікодныя (валачобныя), радаўніцкія (песьні-плач, прычытваньні, галашэньні), юр'еўскія, мікольскія, духаўскія, траецкія, русальныя, купальскія, пятроўскія, жніўныя, спасаўскія, восеньскія, піліпаўскія; хрэсьбінныя, вясельныя, хаўтурныя (галашэньні); калыханкі; дзіцячыя, любоўныя, сямейна-бытавыя, бяседныя, карагодныя, гулёбныя, скочныя, гумарыстычныя, сатырычныя; гістарычныя, гістарычна-бытавыя, прыгонныя, казацкія, чумацкія, вайсковыя, разбойніцкія, арыштанцкія; талочныя, песьні грабароў, плытагонаў, дрывасекаў, пральляў, ткальляў, шаўцоў, краўцоў, канюшкоў, пастушкоў; псальмы, духоўныя вершы, памінальныя, маёва-набажэнскія, старэцкія (жабрацкія), песьні сэктантаў; кніжныя вершы, што зрабіліся народнымі песьнямі; часткі песень, хоць-бы адзін радок песьні,—наагул усё, што пяецца ці як асобная песьня, прыпеўка, ці як прыпеў у гульні, у якім-небудзь абрадзе, у казцы, пры якой-небудзь працы для вызначэньня рытму і г. д.

3. Запісваць трэба казкі: пра бунты, паўстаньні, рэволюцыі, фантастычныя, пра жывёлу, социяльна-бытавыя, рэлігійныя, легенды, апокрыфы і да т. п.; розныя апавяданьні і пераказы пра стварэньне сьвету, пра багоў, чартоў, сьвятых, пра сьветапрастаўленьне і розныя дзівы, пра лясуноў, вадзянікоў, русалак, хатнікаў, падпечнікаў і ўсякіх нячысьцікаў, пра мерцьвякоў, чараўнікоў, воўкалакаў, пра розныя хваробы ў постаці чалавека, пра скіданьні чалавека ці якой іншай жывой істоты зьверам, птушкаю, дрэвам, каменем, пра розныя проклятыя ці заклятыя месцы, курганы, камені, крыніцы, азёры, скарбы, пра жывёлу, птушак, рыб, расьліны, дрэвы, травы, краскі, месяц, зоркі, агонь, ваду, зямлю, віхор; аб розных даўных і сучасных народах, гістарычных асобах, пра вайну, мор, голад, паншчыну, казаччыну, чумаччыну, салдатчыну, перасяленьне ў Сібір, пра арыштанцкае жыцьцё і г. д.; розныя жарты, байкі, гумарыстычныя і сатырычныя апавяданьні і пераказы пра людзей іншых кляс і социяльных станаў, пра вучоных і няўчоных, разумных і дурных, пра жанок і мужоў; апавяданьні і пераказы пра тутэйшых людзей, вясковае жыцьцё, аб розных падарожах, жыцьці на чужыне, у горадзе, на фабрыцы, на ўсякіх заробках; апавяданьні і пераказы з асабістага жыцьця, пра здані, страхі, хваробы, прадказаньні, сьненьні, варожбы, розныя ўспаміны з асабістага жыцьця,

успаміны аб вайне, рэволюцыі, поўныя перaказы асабістага жыцьця, думкі, развагі і г. д.; кніжныя творы, пашоўшыя ў народ, як розныя „гутаркі“, „Тарас на Парнасе“, вершы В. Дунін-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, „Адвеку мы спалі“ і інш.

4. Запісваць трэба замовы—ад хваробы, урокаў, заломаў і ўсякіх чар, ад зьвера, агню, грому, падвею, каб не забілі на вайне, каб мець посьпех ці паправу ў гаспадарцы, зямецтве, паляваньні, у каханьні, сямейным жыцьці, на службе, у навуцы і г. д.,—наагул усякія замаўляньні, шаптаньні, нагаварваньні, зьвязаныя з чараўніцтвам, знахарствам, народным лячэньнем, рознымі абрадамі, а нават і паасобныя выразы, што паходзяць ад веры ў моц слова, прыкладам: „як ня чуе, так няхай ня вадзіць“, „у добрую часінку сказаць, а ў ліхую памаўчаць“ і да т. п.

5. Запісваць трэба прыказкі, прыслоўі і розныя прымаўляньні.

6. Запісваць трэба загадкі (з адгадкамі да іх).

7. Запісваць трэба тэксты драматычных народных прадстаўленьняў, розныя „рацэі“ (на вясельлі і інш.), размовы карагодныя, у гульнях, абрадах і да т. п.

8. Запісваць трэба розныя выразы, як: прывітаньні, разьвітаньні, пажаданьні дабра ці ліха, праклёны, бажэньні, прымаўляньні ў старцоў (жабракоў), пастухоў, гандляроў, рамесьнікаў, выкрыкі за працаю ў плытагонаў і да т. п., характэрныя выразы, зьвязаныя з пэўнаю профэсіяй, умоўныя выразы, характэрныя жаргонныя выразы, мясцовыя выразы, наагул усякія вобразныя, характэрныя і трапныя выразы і звароты, прозьвішчы людзей, назовы мясцовасьцяй і да таго падобны матэрыял, у якім так ці йначай адбіваецца народная творчасьць.

9. Запісваць трэба і тыя вусныя народныя творы і кніжныя творы, пашоўшыя ў народ, што ўжо друкаваліся ў розных зборніках і выданьнях.

### Як трэба запісваць?

10. Запісваць трэба ўсё зусім так, як пяюць ці кажуць, не зважаючы на нясклaдную мову апавядальніка, ня мінаючы ні паўторваньняў, ні брыдкіх ці саромных слоў; кожнае слова, кожны выраз трэба захоўваць у найменшых драбніцах, нічога не пераказваючы сваімі словамі.

11. Запісваць трэба зусім так, як у гэтай мясцовасьці гавораць, нічога не зьмяняючы ў бок літаратурнага правапісу.

12. Памагчымасьці трэба ставіць націскі. Абавязкова ставіць іх у словах рэдкіх, старых, мясцовых і там, дзе націск ня сходзіцца з літаратурным націскам або ён у тым самым слове аднаго твору ці аднае мясцовасьці ўжываецца парознаму: *бы́ла*—*была̀*.

13. На незразумелыя словы і звароты трэба прасіць тлумачэньня і запісваць яго словамі апавядальніка, а не сваім пераказам; пытацца-ж трэба толькі тады, як увесь твор запісан.

14. Калі апавядаюць ці пяюць, ня трэба перапыняць; толькі ў разе патрэбы можна парушыць маўчаньне ці падбадрыць апавядальніка належнаю ўвагаю і да д. п.

15. Зрабіўшы запіс, трэба яго прачытаць апавядальніку, дапісваючы ўсякія дадаткі і зьмены, з паказаньнем іхнага месца ў творы, нічога, аднак, не касуючы ў першым запісе.

16. Калі магчыма, найлепей рабіць запісы фонографам ці стэнограмаю. Пры звычайных запісах можна рабіць скарачэньні слоў (апрача

слоў рэдкіх, малавядомых, няпэўных). Скарачэньні дапісваць, не адкладаючы на другі раз і просячы, калі трэба, апавядальніка паўтарыць скарочаныя словы. Трэба, аднак, асьцерагацца, каб нуднымі і марудными зацяжкамі ня зьбіць апавядальніка з творчага настрою.

17. Сшытак павінен быць з вялікім полем (на $^1/_2$ аркушу), радкі пісаць нягуста, каб мець запас месца на дадаткі, зьмены, дапісваньні. Дапісваць можна і ў канцы запісу, даклада паказваючы ўмоўнымі значкамі, дзе ў тэксьце ўсяго твору павінна быць дапісанае.

18. Запіс мае быць чытэльны, пісаны з аднаго боку паперы. Запісы можна і перапісаць, але ў такім разе абавязкова прыкладаць да белавіка чарнавы запіс.

### Ад каго трэба запісваць?

19. Запісваць трэба ад кожнага, хто ўмее пяяць ці казаць вусныя творы, ад дарослых і ад дзяцей, ад пісьменных і няпісьменных, але з большаю ўвагаю на няпісьменнага і наагул таго, хто ў большай меры захаваў сувязь з вуснай творчасьцю, асабліва ў сэнсе чыстаты яго мовы і нацыянальнай выразьлівасьці ўсяе яго культуры.

20. Трэба даведацца, каго ў гэтай мясцовасьці лічаць найболей здольным казаць казкі ці пяяць песьні, наагул трэба шукаць і знаходзіць асоб, ад якіх можна спадзявацца лепшага і па зьместу і па форме матэрыялу, і запісы рабіць пераважна ад іх.

21. Трэба даведацца, ці няма каго ў гэтай мясцовасьці, хто сам складае казкі ці песьні і г. д., і запісаць іх ад яго.

22. Трэба даведацца, ці няма ў гэтай мясцовасьці каго з рабочых, сялян, вучняў і г. д., хто любіць запісваць вусныя народныя творы, „гутаркі“ і да т. п., і сьпісаць яго запісы з належнымі ўвагамі або запісаць іх ад тых людзей, ад каго ён запісаў, або далажыць стараньняў, каб яго запісы трапілі ў Інбелкульт.

23. Запісваць трэба памагчымасьці ўсё, што ведаюць у гэтай мясцовасьці, і ад кожнага ўсё, што яму ведама. Калі ня ўдасца запісаць зусім усё, дык трэба напісаць кароткі зьмест ці хоць пералічыць назовы твораў, якія апавядальнік умее ці ведае (усе песьні, казкі, замовы і г. д.).

24. Калі які-небудзь твор дужа пашыран у гэтай мясцовасьці, дык трэба запісаць яго памагчымасьці ад большага ліку тутэйшых людзей.

25. Таксама калі выпадае дайсьці большае пэўнасьці, дык можна запісаць той самы твор ці толькі зьмены ў ім ад розных асоб з аднае вёскі ці сям‘і.

26. Пры магчымасьці варта запісваць некалькі тых самых твораў ад тае самае асобы цераз даўжэйшы працяг часу (поўгода, год і болей), даючы зусім асобны новы запіс ці толькі зьмены і дадаткі і паказваючы, калі зроблен новы запіс ці гэтыя зьмены і дадаткі.

### Ведамасьці, якія трэба даваць да запісаў.

27. Трэба паказваць, дзе быў зроблен запіс аднаго ці многіх (і якіх) твораў: якая акруга, раён, сельсавет, горад, мястэчка, вёска, засьценак, выселкі, хутар і г. д.; колькі, прыблізна, вёрст адгэтуль да гораду, мястэчка, фабрыкі, станцыі чыгункі, пристані і г. д.; які пляменны склад тутэйшай люднасьці (хто жыве, апрача беларусаў); якая вера была тут пашырана; чым займаюцца тутэйшыя людзі, ці ходзяць

на заробкі ў сьвет і куды найбольш ходзяць і г. д.; ці спрадвеку жывуць тут ці адкуль наехалі; ці ёсьць тут школа, бібліотэка, хата-чытальня і інш. культурна-асьветныя ўстановы і ці даўно ёсьць.

28. Трэба паказаць, ад каго быў зроблен запіс аднаго ці многіх (і якіх) твораў: даць памагчымасьці паўнейшы жыцьцяпіс апавядальніка, асабліва выдатнага, яго імя і прозьвішча ў тутэйшай вымове, гады; паказаць, адкуль ён родам, якой нацыянальнасьці, з якой вышаў веры, наколькі ён пісьменны і дзе вучыўся, куды ён выяжджаў на даўжэйшы час (вайсковая служба, заробкі, эміграцыя, бяжэнства і г. д.), колькі часу там быў, чым займаўся і цяпер займаецца, ці не калека, сьляпы і г. д.

29. Трэба паказаць крыніцу, адкуль узяў апавядальнік ці сьпявака казку, песьню і г. д., ці ён ад каго чуў у вусным пераказе, ці як чыталі кніжку, ад каго ён навучыўся казкі казаць ці песьні пяяць, калі навучыўся і пры якіх акалічнасьцях.

30. Трэба паказаць, калі быў зроблен запіс (год, месяц, дзень), пры якіх акалічнасьцях, у будзённы дзень ці ў сьвята, пры якой працы ці на йгрышчы, пры якіх гульнях і абрадах і г. д., а таксама трэба зазначыць, у якім быў настроі апавядальнік і слухачы, як яны адносіліся да апавяданьня, якія рабілі ўвагі і г. д. Усе ўвагі запісаць словамі таго, хто сказаў, а не сваім пераказам.

31. Памагчымасьці трэба даведвацца і паказваць, ці даўно гэты твор тут ведаюць і ўмеюць, як глядзяць на яго старыя й маладыя (паважна, жартаўліва, нялюба), як завуць гэты твор, калі яго павозіцца пяяць ці казаць (ці як гэта было зазвычаена даўней), ці маюць якое тлумачэньне, як ён злажыўся і г. д.

32. Калі твор (песьня, казка, замова і да т. п.) зьвязваецца з абрадам, гульнёю, іграньнем, скокамі, варажбою і наагул якім-небудзь дзеяньнем, дык трэба апісаць месца, час, спосаб, усіх удзельнікаў і ўсе прадметы гэтага дзеяньня, а пры магчымасьці—і сфотографаваць ці нарысаваць. Трэба адзначаць, ці апісаньне зроблена з асабістага наглядаНьня зьбіральніка, ці з чыіх слоў, а калі са слоў некалькіх асоб, дык што ў апісаньні сказана кожнай асобаю.

### Запісваньне песень.

33. Запісваючы песьні, трэба паказаць, ці песьня харавая ці адзіночная (ці такая і такая), з якім часам зьвязана яе пяяньне ў народзе, ці зьвязана яна з абрадам і з якім, у які час абраду пяецца („калі маладую на пасад вядуць" і да т. п.), ці бывае пад яе акомпанімэнт (які інструмант ці прытопваньне, пляскаНьне і г. д.), хто яе зазвычай пяе (мужчыны, жанчыны, старцы, пральлі, канюшкі, пастушкі, дзеці і г. д.), ці ёсьць асобныя сьпявакі для пэўных песень, у каго яны вучыліся пяяць, які ў іх лад, манер пяяць і як тут гэты лад пяяньня завуць і г. д. Трэба даведацца, ці няма тут рукапісных ці друкаваных сьпеўнікаў, псальмнікаў, як яны завуцца, а калі можна—прыслаць іх у Інбелкульт ці копіі з іх. Пры магчымасьці—абавязкова запісваць мэлёдыю песьні.

### Запісваньне апавяданьняў.

34. Запісваючы апавяданьні, трэба мець на ўвазе агульныя правілы (гл. §§ 29, 30, 31, 32 і інш.) і якім манерам кажуць казку, ці пяецца якая-небудзь частка казкі, ці ёсьць перад казкаю якая прыказка, ці зьвязваецца яна апавядальнікам з гэтаю казкаю, ці гаворыцца

наагул у процэсе творчага казаньня, ці перапыняе апавядальнік сваё апавяданьне рознымі развагамі, жартамі, зваротамі і да т. п., ці дужа пашырана гэтае апавяданьне сярод тутэйшых людзей, як яно тут завецца і г. д. Усё гэта трэба паказваць, а ўвагі, жарты, прыказкі запісваць словамі апавядальніка (ці слухачоў, калі яны іх гаварылі, слухаючы апавяданьне).

### Запісваньне замоў.

35. Запісваючы замовы, трэба паказваць, як іх завуць у гэтай мясцовасьці („замовы", „замаўляньні", „загаворы", „нагаварваньні", „шаптаньні" і да т. п.); ці кожная замова мае тут свой асобны назоў, ці агульны з усімі замовамі на падобныя выпадкі; ці многія тутэйшыя людзі ўмеюць замаўляць, ці толькі пэўныя асобы і хто гэтыя асобы (мужчыны, жанчыны, старыя, маладыя, млынары, зямцы, бабылкі); калі, у які час зазвычаена тут казаць замову (у вечары, а поўначы і г. д.); дзе іх кажуць (у хаце, на гародзе, у ростанях і г. д.); з якім дзеяньнем і з якімі прадметамі зьвязваецца замаўляньне (шэпчуць на ваду, на выбраныя з зямлі сьляды і г. д.); якім спосабам наагул замаўляюць; якім павінен быць чараўнік, знахар, звычайны замаўляньнік, каб яго замаўляньні мелі моц, якія ўмовы дзеля гэтага трэба выконваць (не хадзіць у царкву, адварачвацца ад абразоў, ня піць гарэлкі, не сварыцца, не азірацца начою і г. д.); як павінен рабіць той, каму замаўляюць; каму адказвае чараўнік, знахар свае замовы і сваю моц перад сьмерцю; ці ёсьць тут у сялянскіх сем'ях пісаныя замовы (сьпісаць іх), ці носяць тут на сабе зашытыя замовы, магічныя словы і г. д.

### Запісваньне прыказак.

36. Запісваючы прыказкі, прыслоўі і да т. п., трэба паказваць хто, калі і як іх кажа; як тут тлумачаць пахаджэньне прыказкі, з якою прыгодаю зьвязваюць яе пахаджэньне і г. д.

### Запісваньне загадак.

37. Запісваць загадку трэба з адгадкаю (калі адгадку тут яшчэ не забыліся); калі адгадкі няма, трэба гэта зазначаць; калі на адну загадку ёсьць некалькі адгадак, трэба запісваць іх усе; калі адгадка незразумелая, трэба папрасіць тлумачэньня да яе і запісаць яго словамі апавядальніка; запісваць трэба загадкі ад дарослых і ад дзяцей, усё роўна даючы належныя весткі аб тым, хто загадку казаў; трэба паказваць, з якою гульнёю ці абрадам бывае зьвязана загадка, калі яна тут стала ведама (спрадвеку, нядаўна) і г. д.

38. Драматычныя народныя прадстаўленьні трэба запісваць з абавязковым, пры магчымасьці, апісваньнем усіх акалічнасьцяй дзеяньня.

39. Розныя выразы трэба запісваць з абавязковым паказаньнем, дзе, калі і хто іх казаў, з даданьнем памагчымасьці і розных іншых вестак паводле агульных правіл.

40. Запісаныя творы трэба пасылаць на адрэс: БССР, Менск, Рэволюцыйная вуліца, 21, Літаратурнай сэкцыі Інбелкульту (корэспондэнцыя на адрэс Інбелкульту перасылаецца поштаю без аплаты).

Пры ўкладаньні гэтае програмы часткова карыстана, як падходам, з програмы „Комиссии по Народной Словесности при Этногр. Отд. Общ. Любит. Естествозн., Астроном. и Этнограф."

---

# БІБЛІОГРАФІЯ.

**Літаратура па краязнаўству.**

Аднэй з першых задач краязнаўца зьяўляецца знаёмства з літаратурай па краязнаўству.

Агляд, які даецца ніжэй, ня ставіць сабе мэтай абхапіць суцэльна бібліографію па краязнаўству, але паказаць: 1) грунтоўную літаратуру краязнаўства і паасобныя выданьні, 2) пералічыць пэрыодычныя выданьні краязнаўчых устаноў СССР.

Падробны агляд літаратуры агульнага характару па краязнаўству друкуецца ў „Известиях Центрального Бюро Краеведения" пад рэдакцыяй С. Ф. Ольдэнбурга. Ленінград. Выд. ЦБК РСФСР.

Літаратура па краязнаўству ў школе падрабязна паказана ў зборніку „Вопросы краеведения в школе" пад рэдакцыяй проф. Буданава і І. С. Суманова. Ленінград, 1926 г. Выд. Брокгауз-Эфрон.

Аб музэях мясцовага краю гл. кнігу: „Музей местной природы" А. Е. Жадовского.

1. *Выданьні агульнага зьместу*, дзе можна знайсьці агульна-мэтодычныя паказаньні па зьбіраньні матэрыялу для вывучэньня роднага краю і тэхніцы назіраньня над мясцовым жыцьцём, наступныя:

1. **Бирюков, В. П.** *1924.— Очерки краеведческой работы.* Шадринск. Изд. „Шадринского Научного хранилища". 8⁰. Стр. 112.

Агляд дае адказ амаль на ўсе пытаньні, якія паўстаюць у краяведа, асабліва ў глухіх кутках. Разглядаюцца мэты і прыёмы краязнаўчай працы. Вельмі каштоўная глава аб організацыі музэю мясцовага краю (стар. 86—112).

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

5. *1924.—Дневник 2-й Всесоюзной Конференции по краеведению.* Центральное Бюро Краеведения при Российской Академии Наук. М. Изд. ЦБК. 8⁰ №№ 1,2,3 и 4.

[ . . . . . . . . . . . . . . . . .

3. *1923 г.—Вопросы краеведения.* Зборнік дакладаў, зробленых на І Усесаюзнай Конфэрэнцыі навуковых таварыстваў па вывучэньні мясцовага краю ў Маскве, у лістападзе 1921, скліканы Акадэм. Цэнтрам. Пад рэд. Ул. Ўл. Багданава.

Гэты зборнік высьвятляе мэты і пэрспэктывы краязнаўства.

(Нижн. Новгород). Нижполиграф. 8⁰.

2. **Вишневский, Б. Н.**, антрополог Росс. Акад. Наук. *1925.—Человек как производительная сила (для экскурсантов и краеведов).*

Ленинград. Изд-ство Брокгауз-Эфрон. 8⁰. Стр. 50.

[ . . . . . . . . . . . . . . . . .

*1925.—Как изучать свой край.* Сборник статей по краеведению, под редакцией проф. С. А. Советова и проф. Н. И. Кузнецова. Ленинград, Изд-во „Брокгауз-Эфрон". 8⁰. Стр. 215.

Содержание: От ред. 1) Проф. *Л. С. Берг.* Предмет и задачи краеведения. 2) Проф. *Я. С. Эдельштейн.* Как изучать геологическое строение, устройство поверхности и минеральные богатства края. 3) Проф. *Каминский.* Как могут изучать климат краеведческие организации. 4) Проф. *С. А. Советов.* Что могут сделать краеведы по изучению погоды. 5) Проф. *С. А. Советов.* Как изучать воды края. 6) *Ю. Д. Цинзерлинг.* Как изучать

болота. 7) Проф. *С. С. Неустроев.* Как изучать почвы свеего края. 8) Проф. *Б. А. Федченко.* Как изучать флору. 9) Проф. *Н. И. Кузнецов.* Задачи и методы ботанико-географического картографирования растительного покрова СССР. 10) Проф. *А. А. Бялыницкий-Бируля.* Зоологические наблюдения.

**Клетнова Е. Н.** *1923.—Изучение родного края.* Под ред. и с предисловием *Н. А. Рыбникова.* 4-е изд. Научно-Педагог. Секцией Государ. Ученого Совета дапущено, как пособие для преподавателей. Москва—Петроград. Госиздат-во. 8⁰. Стр. 86.

**Марр М. Я.** *1925.—Краеведение.* (Доклад прочытанный на учредительном с‘езде Асоцыаций Краеведческих организаций в Махач-Кала). Ленинград. Изд. Ассоциац. Горских Кр. Орг. С. Кавказа. 8⁰. Стр. 20.

**Муратов.** *1925.—Краеведение, как движение.* Иркутск. Изд. Восточно-Сибирск. Отд. Русск. Геогр. О-ва. 8⁰. Стр. 8.

(Адбітак з зборніку „Сибирская живая старина“. том III. Стр. 1-8).

**Феноменов М. Я** 1922.—*Изучение родного края.* М. Изд-во „Молодая Гвардия“, 16⁰. Стр. 70.

Брошура прысьвечана мэтодам, формам і зьместу краязнаўчай працы.

**10. Феноменов М. Я.**—1925 г.—*Современная деревня.* Опыт краеведческого исследования одной деревни. Ч. 1. Производительные силы деревни. Ленинград—Москва Госиздат, 8⁰. Стр. 258. (Библиотека обществоведения.

**Дзенс-Литовский А. И., Абрамов И.** 1925 г.—*Познание местного края.* Об‘ем, содержание и приемы ведения краеведческой работы и организации местного музея. Планы работ и короткие программы для изучения своего края. Вступительная статья Предс. Ц. Б. Кр. Академика С. Ф. Ольденбурга. Ленинград. Изд-во „Колос“. 8⁰. Стр. 108.

*2. З багатай літаратуры па краязнаўству ў школе можна адзначыць:*

**4. Автухов И. Г., Мартыненко И. Д.** 1925.—*Программы ГУС‘а и массовая школа.* Москва. ГИЗ. 16⁰. Стр. 272.

[ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

1925.—*Вопросы краеведения в школе.* Пад редакцией проф. В. П. Буданова и И. С. Симонова. Ленинград. Изд-во „Брокгауз-Ефрон“. 8⁰. Стр. 172.

Зборнік зьмяшчае артыкулы: А. Г. Ярашэўскага, В. В. Кісьцякоўскага, А. Ф. Музычэнкі, І. М. Грэўса і В. П. Буданова, прысьвечаныя мэтодам і шляхам краязнаўства, і вялікі агляд літаратуры па краязнаўству ў школе, зложаны І. С. Сімановым.

**Глуздовский В. Е.** 1925.—*Родиноведение и учитель. Опыт постановки проблемы учителя.* Чита-Владивосток. „Госкнига“. 16⁰. Стр. 272.

**Гринкевич В. К.** 1925. — *Краеведение в школе.* Л. Изд-во книжного сектора Губоно. 8⁰. Стр. 37.

Кніга зьмяшчае артыкулы пад такімі назвамі:

Историческая справка. Схема краеведческой работы. Образцы школьной работы по схеме. Методика краеведения. Педагогическое значение школьного краеведения. Школа и общество краеведения. Материал для краеведческих синтетических тем (деревня, завод). Краеведение и дидактика.

**Звягинцев Е. А.** 1924.—*Родиноведение и локализация в школе. 3-е изд.* Москва. Гос. Изд-во. 8⁰. Стр. 104.

Кніга зусім зразумелая для краязнаўчых школьных установ і прыгодная для іх бібліотэк, бо можа служыць уступам да пастаноўкі пытаньня аб школьным краязнаўстве. У 3-ім разьдзеле „Предмет и метод“ аўтар выказвае свае асноўныя погляды на сутнасьць узаемааднosін краязнаўства ў школе. Кніга мала адбівае сучасную організацыю спра-

вы краязнаўства. 1-ае выданьне вышла да рэволюцыі.

Зьмест: Разьдзел V. Ознакомление с местным краем и его изучение. 1. Краеведение, как предмет в школе. 2. Соображения об издании научно-популярных сборников и об организации курсов по краеведению. 3. Участие учителей в исследовании местной природы и жизни.

**Игнатьев Б. В.** 1925.—*Краеведение и школа*. М. „Новая Москва", 16⁰. Стр. 57 (Библиотека школьного работника).

. . .

1924.—*„Летняя школа"*. Серия брошюр Подотдела Соц. Воспит. ЛГОНО под редакцией Н. А. Кузнецова. Вып. IV. Синтетические тезисы краеведческого характера в летней школе. („Деревня", „Река Нева", „Город Павловск"). Ленинград. Изд. Соцвоса ЛГОНО. 8⁰.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

1924.—*Летняя школа*. Педагогический сборник под редакцией А. С. Гинтовта и Р. Г. Лемберг. Ленинград. Госиздат-во. 8⁰. Вып. I, Стр. 192. Вып. II, Стр. 155.

**Новоселов Ф. П.** 1925.—*Изучение местного края в городской школе*. Допущено Научно - Педагогическ. Секцией Госуд. Ученого Совета. Москва. Изд-во „Работник Просвещения". 8⁰. Стр. 60.

[ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

1924.—*Новые программы единой трудовой школы I ступени. I, II, III, IV годы обучения*. Утверждены ГУС'ом.

Москва. ГИЗ. 8⁰. Стр. 146.

[ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

1925.—*О Краеведческой работе учительства* (*Методическое письмо*).

Ставрополь. Изд. Ставропольского Окроно. 8⁰. Стр. 23.

**Феноменов М. Я.** *1925.—Изучение быта деревни в школе* (Исследовательская краеведческая работа по обществоведению). Под ред. Г. О. Гордона. 2-е изд. Допущено Научно-Педагогич. Секц. ГУС'а, как пособие для преподавателей.

Москва, Изд-во „Работник Просвещения". 8⁰. Стр. 100.

**Лилина З.** *1924.—Краеведение в школе.*

„Трудовая школа". Педагогический сборник 1924 г. № 6-7.

Ленинград. Гос. Изд. 8⁰. Стр. 68.

[ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*1924.—Народный учитель № 3.* Москва. Изд-во „Работник Просвещения". 8⁰.

Гэты нумар амаль што цалком прысьвечаны пытаньням краязнаўства.

*3. Літаратура па экскурсыйнай справе*:

[ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*1923.—Вопросы экскурсионного дела по данным Петроградской экскурсионной конференции 10—12 марта 1923 г.* под общей ред. проф. Б. Е. Райкова.

П. Культурно-просветительное кооперативное т-во „Начатки знаний". 8⁰. Стр. 138 (2).

**Коленкин А. А.** *1924.—Русский город и его роль в прошлом и настоящем* (Дальняя экскурсия).

Ленинград. Изд. „Путь к знанию".

[ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*1923.—Основные темы летних экскурсий*. Составлена при участии проф. Комарова, учен. агронома Н. А. Кузнецова, К. М. Лепилова, проф. Б. Е. Райкова, В. Т. Сапожкова, М. В. Ускова и В. А. Федорова.

Петроград. Соцвос ПГОНО. 8⁰. Стр. 48.

Библиография: „Пособия для экскурсий и наблюдений в природе" (на 2 стр.).

**Петров А. А.** *1924.—Массовые экскурсии.*

Организация и методика.

М. Изд-во МГСПС. 8⁰. Стр. 184.

**Райков Б. Е. проф.** *1922.—Методика и техника ведения экскурсий.*

2-ое изд. переработан. и дополн.

П. Изд-во „Время". 8⁰. Стр. 128.

**Сухова В. М.** *1925.—Что может дать экскурсия.*

Научно-Педагогической Секцией Государственного Ученого Совета допущено, как руководство для преподавателей. 2-е издание.

М. Изд-во „Работник Просвещения“. 8⁰, Стр. 40.

**Шемянов Н. Н.** *1925.—Экскурсионный метод в математике.*

Иваново-Вознесенск и Шуя.

Изд-во „Основа“. 16⁰. Стр. 53+19 л. рис.

(Краткое руководство к производству простейших геодезических работ. Имеется глава: „Математические экскурсии и краеведение“.

Библиография: 51 назв.).

**Шик, Лев.** *1924.—Самообразовательные экскурсии.*

М. Изд. МГСПС. „Труд и Книга“. 8⁰. Стр. 137 (4).

Библиография: „Литература“ (на 3 страницах).

**Ярошевский А. Г.** *1925.—Обществоведение в школьной краеведческой работе.*

Ленинград. Книгоизд-во „Сеятель“. Е. В. Высоцкого. 8⁰. Стр. 157.

. . .

*1925.—Экскурсии в культуры.*

Методический сборник. Под ред. проф. И. М. Гревса.

Москва. Кооперат. Изд-во „Мир“. 8⁰. Стр. 204.

**Буданов В. П.** *1923.—Краеведение и географические экскурсии.*

„Педагогическая Мысль“ 1923 г. № 5. Стр. 14-21.

У артыкуле даецца заданьне плянавага дасьледваньня свайго раёну, як цэльнага географічнага ляндшафту, шляхам экскурсіі.

*4. Аб музэях мясцовага краю.*

**Богданов Вл. Вл.** *1923.—Музейная техника краеведения* (Инструкции и общие указания).

Вологда. Изд. Вологодского Областного Отделения Государственного Издательства. 8⁰. Стр. 47.

**Грабарь И. Э.** *1919.—Для чего надо охранять и собирать сокровища искусства и старины.*

М. Изд. Ком. по охране худ. сокров. при Сов. Всер. Кооп. с‘ездов, 8⁰.

**Жадовский А. Е.** *1925.—Музей местной природы.*

Москва, Изд-во „Новая Москва“. 8⁰. Стр. 112.

Библиотека „Вестника Просвещения“.

**Романов Н. И.** *1919.—Как устраивать местные музеи.*

М. Изд. Всеросс. Кооп. С‘ездов. 8⁰.

**Феноменов М.** *1922.—Музей местного края.*

М. Изд-во „Молодая Гвардия“, 16⁰. Стр. 52.

*5. Справачнікі па краязнаўству.*

[ . . . . . . . . . . . . . .

*1925. — Краеведные учреждения СССР.*

Список обществ и кружков по изучению местного края, музеев, и других краеведных организаций.

Ленинград, тип. В-М Сил. РККФ. 16⁰. Стр. VII—136. Центральное Бюро Краеведения.

*6. Зборнікі па краязнаўству.*

[ . . . . . . . . . . . . . .

*1925. — Воронежский Краеведческий сборник.*

Воронеж., Изд. О-ва для изучен. Воронеж. края. 8⁰.

[ . . . . . . . . . . . . . .

*1924.—Записки Тюменьского Общества научного изучения местного края.*

Тюмень. 8⁰.

[ . . . . . . . . . . . . . .

*1924-5.—Краеведческий сборник.*

Нижний Новгород, изд. Нижегородского Педагогического Института. 8⁰.

[ . . . . . . . . . . . . . .

*1924.—Познай свой край.*

Сборник Псковского Общества Краеведения.

Псков. Изд. О-ва Краеведения. 8⁰.

[ . . . . . . . . . . . . . .

*Сибирская Живая Старина.*

Этнографический сборник. Под редакц. М. К. Азадовского и Г. С. Виноградова. Отд. Рус. Геогр. О-ва. 8°.

Том. I-II, III-IV.

. . .

*1923.—Труды Кологривского Общества Краеведения.*

Кологрив. 8°.

*7. Пэрыодычныя выданьня.*

*1925.—Бюллетень Восточно-Сибирского Отдела Русского Географического О-ва.*

Иркутск. 8°.

№ 6. Первый Восточно-Сибирский Краеведческий С'езд.

*1923.—„Вістнік Одеськоі Комісіі Краезнавства пры Всеукраінскій Академіі Наук“. ч.* I.

Одесса. Изд. Одесской Комиссии Краеведения при ВУАН. 8°.

*1925.—Вестник Карело-Мурманского Края.*

Орган Совнаркома АКССР и Правления Мурманской жел. дороги. Ленинград. 8°.

**1923. Вестник Рязанских Краеведов.** Ежемесячный журнал Губернского Общества исследователей Рязанского края.

Касимов. Изд-во „Красный Восход“. 8°.

**1925. Вестник Научного Общества Татароведения.** Казань, издание Академического Центра Наркомпроса ТССР. 8°.

**1924. Жизнь Бурятии.**

Ежемесячный журнал, издаваемый при ЦИК и СНК Бурят-Монгольской АССР и посвященный вопросам жизни и хозяйства Бурятии. Верхнеудинск. 8°.

**Жизнь Сибири.**

Журн. политики, экономики и краеведения под. ред. Лаврова В. М., проф. Новомберского Н. Я. и Эпштейна Л. И.

Новониколаевск, Сибирск. Револ. Комитет. 8°.

**1923. Журнал Шадринского Общества Краеведения.** Шадринск. Изд. Шадринского О-ва Краеведения. 8°.

**1922. Записки краеведческого кружка при Вологодском Педагогическом Институте.** Вологда. 8°.

**1923. Записки Якутского Краевого Географического Общества.** Якутск. 8°.

**1925. Известия Осетинского Научно-Исследовательского Института Краеведения.** Под редакцией Б. А. Алборова, Г. Г. Бекоева, Гр. А. Дзагурова и Д. А. Дзагурова.

Владикавказ, издание И. О. Н. Иссл. Ин-та. 8°.

**1922—25. Известия Общества Любителей Изучения Кубанского края.**

Под ред. проф. Б. М. Городецкого. Краснодар. Изд. ОЛИК. 8°.

**1922. Известия Тамбовского Общества изучения природы и культуры местного края.**

Тамбов. Изд. О-ва. 8°.

**1922. Известия Вятского Научно-Исследовательского Института Краеведения.**

Вологда. Изд. Вологодского Областного отделения Госиздата. 8°.

**1924. Известия Общества Изучения Карелии.** Петрозаводск. Изд. О-ва изучения Карелии. 8°.

**1925. Известия Центрального Бюро Краеведения.** Под ред. академика С. Ф. Ольденбурга. Выходит до 10 раз в год.

Ленинград. Изд. ЦБК. 8°.

**1922. Известия Общества изучения Манчжурского края.** Харбин.

**1924. Коми Му-Зырянский край.**

Экономический и краеведческий журнал, изд. Областн. Исполн. Комитетом Автономной Области Коми и Обществом изучения Коми края.

Устсысольск. Издан. Областного Исполкома Авт. Обл. Коми и О-ва изучения Коми края. 8°.

**1923-24. Краеведение.** Периодический Орган Центрального Бюро Краеведения при Росс. Акад. Наук. Под ред. Акад. С. Ф. Ольденбурга, 2 раза в год.

Москва—Ленинград, изд. Главнаука (и) Гос. Изд-во. 8⁰.

**1925. Кунгурско - Красноуфимский край** (Краеведческий ежемесячник). Выходит при участи Испарта, местных краеведов и краеведов Прикамья. Кунгур Уральской области. Изд-во „Искра". 8⁰.

**1923. Летопись Краеведения.**

Тверь, Изд. Об-ва Изучения Тверского края. 8⁰.

**1925. Листок Краеведа.**

Орган Бюро Краеведения при Культотделе Моск. Губпроса. Ред. Коллегия. Москва. 8⁰.

**1921—25. Наш Край.** Орган Астраханск. Губернской Плановой Комиссии. Астрахань. 8⁰.

**1924-25. Наш Край.** Ежемесячный популярно-научный, общественно-экономический краеведческий журнал.

Тобольск. Изд. Об-ва изучения края при музее. 8⁰.

**1922. Родной Край.** Периодическое изд., посвященное изучению местного края, под ред. секции краеведения Рыбинского Научного Об-ва. Рыбинск. 8⁰.

**1923-24. Север.** Орган Научного Северного Краеведения под общей редакцией Л. Н. Андреевского, Н. В. Ильинского, Я. И. Кузьмина и Н. А. Перфильева.

Вологда. Изд. Вологодского отд. Госуд. Изд-ва. 8⁰.

**1922. Северный Край.** Изд. Вологодского Общества изучения Северного края. Кадников. 8⁰.

**1924. Труды Иваново-Вознесенского Научного О-ва Краеведения.** Материалы по изучению края. Вып. I. Иваново-Вознесенск. 8⁰.

**1922. Труды Общества изучения Киргизского края.** Вып. III.

Оренбург. 8⁰.

**1922. Труды Владимирского Губернского Научного О-ва по изучению местного края.**

Владимир. Гос. Изд-во. 8⁰.

# ХРОНІКА.

## Краязнаўчая справа ў Аршанскай акрузе.

3-4 лістапада г. г. ў Воршы адбылася Першая акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя ў Доме Працаўнікоў Асьветы.

На конфэрэнцыі прысутнічала каля 60 чалавек, прычым былі прадстаўлены 12 краязнаўчых організацый акругі.

У парадку дня былі пастаўлены даклады сакратарыяту ЦБК, інформацыі мясцовых організацый і організацыйныя пытаньні.

З дакладу сакратара *Аршанскага Акруговага Т-ва*, т. Васілеўскага, выявілася, што організацыйны пэрыод працы ў акрузе можна лічыць скончаным, і краязнаўчыя організацыі пачынаюць працу навукова-дасьледчую. У склад Акруговага т-ва, ня лічачы членаў раённых організацый і гурткоў, уваходзіць 48 членаў, якія жывуць у Воршы. З гэтага ліку 38 членаў належаць да Саюзу Прац. Асьв., рэшта—уваходзіць у склад Саюзу Прац. Зямлі і Лесу і Саюзу Сав. Служ. Зразумела, што праца т-ва абапіраецца на настаўніцтва. Праца ўвесь час была добрахвотнаю, грошай на разьвіцьцё справы было вельмі мала. Бюджэт т-ва складаўся з членскіх узносаў, прычым за год было сабрана 32 р. 17 к. Галоўную ўвагу ў сваёй працы т-ва зьвярнула на ўтварэньне раённых т-ваў. З дапамогай Аршанскага Акруговага Выкан. Ком. т-ва пачало выдаваць зборнік „Аршаншчына“, які будзе складацца з трох сшыткаў. Першы сшытак ужо набіраецца ў друкарні і зьмяшчае ў сабе артыкулы профэсароў Люнгерсгаўзэна, Афанасьсева, Кайгарадава, Васількова і Салаўёва аб прыродных асаблівасьцях Аршанскага Краю.

Пры Доме Прац. Асьветы т-ва залажыла невялічкую бібліотэку агульна-краязнаўчага характару. Пры першай сямігодцы ўтвараецца бібліотэка, прыблізна, у 20.000 тамоў па пытаньнях, датычных Аршанскага Краю. Далей т-ва працуе над аб'яднаньнем Аршанскага Сельскагаспадарчага і Культурна-гістарычнага Музэяў.

Т-ва мае пад сваім загадам 2 заказьнікі, перададзеныя Аршанскім Выканкомам: 1) бабровы заказьнік на р. Проні і 2) 8 дзесяцін курганоў, якія знаходзяцца на зямлі Аршанскага лясьніцтва. У вапошнія часы т-ва прыступіла да разгортваньня справы вывучэньня гораду Воршы.

Аб працы ў *Багушэўскім раёне* паведаміў старшыня Багушэўскага раённага т-ва т. Мартусэвіч. Багушэўскае т-ва залажылася ў сакавіку 1925 г., але дасьледчую працу распачало толькі ў верасьні. У склад т-ва ўваходзіць 45 членаў, выключна настаўнікі. Праца падзелена адпаведна спэцыяльнасьцям членаў. Адны з членаў узялі на сябе абавязак прасачыць вадападзельную граду паміж вадазборамі Дняпра і Дзьвіны, другія вывучаюць вёску з этнографічнага боку, трэція ўзяліся за абсьледваньне гаспадаркі раёну. Сабраныя ўзоры вуснай народнай творчасьці т-ва мае выдаць у мясцовым журнале. Некаторыя члены т-ва зьбіраюць фэнолёгічныя матэрыялы, іншыя складаюць апісаньне помнікаў старасьветчыны. Плян працы пакуль што складзены на 3 месяцы.

Аб працы *Дрыбінскага раённага т-ва* паведаміў т. Галышкоў. Дрыбінскае т-ва залажылася 1 лютага 1925 г. і цяпер складаецца з 19 членаў, з якіх 17—настаўнікі. Т-ва самастойна распрацоўвала і рассылала анкеты, у вадказ на якія атрымала

многа матэрыялаў аб курганох, скарбах і даўных селішчах. Адно старое селішча абымае 40 дзесяцін, прычым на ўсёй гэтай прасторы трапляюцца адломкі цэглін, кахляў і г. д. Сабрана багата песень, якія перасланы ў Воршу ў акруговае т-ва. Тав. Галышкоў адзначыў орыгінальнасьць і прыгожасьць мотываў дрыбінскіх песень.

*Дубровенскае раённае т-ва*, аб якім гаворыць т. Федаровіч, залажылася толькі 25 верасьня г. г. і налічвае 37 членаў. Конкрэтных вынікаў працы пакуль што няма.

У *Копыскім раённым т-ве*, якое залажылася 25 студзеня г. г., налічваецца 39 членаў, з якіх 37—настаўнікі, 2—працаўнікі зямлі і лесу. Аб працы т-ва зрабіў даклад т. Анкіновіч, які адзначыў, што праўленьне зьвярталася да настаўніцтва з спэцыяльнай адозвай і сабрала многа песень і некалькі замоў. Цікаўнейшыя замовы былі выстаўлены на раённай сельска-гаспадарчай выстаўцы, між іншым, замовы аб каханьні былі скрадзены, так што ў т-ве засталіся толькі копіі. Пры т-ве ўтвораны сэкцыі лесаводаў і экономічнага ды этнографічнага вывучэньня вёскі.

*Круглянскае раённае т-ва*, як паведаміў тав. Ваяводзін, організована ў лютым г. г. і ў верасьні налічвала 25 членаў.

Праца ў *Коханаўскім раёне,* як аб гэтым далажыў тав. Бяляеў, доўга не магла наладзіцца. Аднак, у сучасны момант ужо сабраны колекцыі старых грошай, песьні, загадкі і г. д. У працы прымаюць удзел усе настаўнікі, але членскія ўзносы яшчэ ня ўносіліся і лік фактычных членаў т-ва ня выяўлены.

Тав. Калецкі, старшыня найстарэйшага ў акрузе *ЛядНянскага раённага т-ва*, зрабіў даклад аб краязнаўчай справе ў ЛядНянскім раёне. ЛядНянскае т-ва ўтварылся 22 кастрычніка 1922 году, а ў сучасны момант налічвае 45 членаў. Недахватам працы т-ва была адсутнасьць пляновасьці. Т-ва здало ў Беларускі Дзяржаўны Музэй 2 малюнкі XVI і XVII веку, знойдзеныя членамі т-ва. У межах раёну часта трапляюцца грашовыя скарбы. Частку знойдзеных старасьвецкіх грошай т-ва накіравала ў Аршанскі музэй.

У т-ве ёсьць старасьвецкія мядалі, ядро 1812 году, шмат іншых даўнасьцяй. У Воршу т-ва пераслала многа песень, баек; сабраны замовы, распачата справа зьбіраньня матэрыялаў для слоўніка жывой мовы і справа абсьледваньня раёну з боку яго географіі, этнографіі і гісторыі. Спэцыяльна распрацоўваецца пытаньне аб вясковых грамадзкіх сьвятах у Лядняншчыне. Сабрана колекцыя ганчарных вырабаў раёну. Члены т-ва падзяліліся на гурткі адпаведна сельсавецкаму падзелу раёну.

Праз кожныя 3 месяцы адбываюцца агульныя сходы т-ва, на якіх адзін з шасьці гурткоў здае справаздачу аб сваёй дзейнасьці. У працы т-ва чынны ўдзел прымаюць комсамольцы, ад якіх атрыманы запісаныя імі байкі, песьні і г. д. Каб уцягнуць у краязнаўчую працу шырокія колы актыўнага сялянства, т-ва пастанавіла чытаць даклады на сходах сельсаветаў. Члены т-ва, якія жывуць у самым мястэчку Ляды, бяруць на сябе зьбіраньне і апрацоўку статыстычных, географічных, гістарычных матэрыялаў, тады як вяскоўцы зьбіраюць слоўнікавы матэрыял, робяць фэнолёгічныя назіраньні, зьбіраюць фольклёр, апісваюць абуцьцё, вопратку і г. д.

Аб працы *Талачынскага раённага т-ва* паведаміў тав. Егерман. Т-ва залажылася 9 траўня 1925 г. і цяпер мае 38 членаў, з якіх двое сяляне, 13—савецкія працаўнікі, рэшта—настаўнікі. Т-ва зьбірае паданьні і песьні, а адзін з членаў т-ва сабраў багатую нумізматычную колекцыю.

*Аршанскае раённае т-ва* ўтварылася 3 жніўня г. г. і налічвае 37 членаў. Як паведаміў старшыня т-ва т. Грыдзюшка, праца т-ва толькі пачынаецца.

Настаўнікі чыгуначных школ пры ст. Ворша згуртованы ў краязнаўчы *гурток Аршанскага чыгуначнага вузла*, аб працы якога далажыў т. Чудовіч. Гурток гэты залажыўся 25 кастрычніка г. г. і налічвае 22 члены. У першую чаргу гурток мае на мэце вывучэньне гораду Воршы і яго экономікі. Зьбіраньне матэрыялаў для слоўніка жывой мовы робіць асабліві гурток „беларусазнаўцаў“ пры ст. Ворша, які яшчэ не зьвязаўся з іншымі краязнаўчымі організацыямі Аршаншчыны.

Аб працы *гуртка пры Аршанскім Рабфаку* зрабіў даклад т. Цэхановіч. Гурток працуе ўжо 2 гады і налічвае 63 члены. У контакце з гуртком краязнаўства працуе гурток беларусазнаўства пры Рабфаку, які вывучае вусную народную творчасьць. Усіх асоб, занятых краязнаўчай працай, пры Рабфаку 104. Рабфакаўцы правялі некалькі краязнаўчых экскурсій, запісалі многа песень, чытаюць популярныя даклады на краязнаўчыя тэмы. Асаблівая ўвага зьвернена на мэтодыку краязнаўства. Праводзіцца запіс мотываў народных песень.

Наймацнейшая краязнаўчая організацыя Аршанскай акругі—Горацкае раённае т-ва, у якім лічыцца 363 члены, на жаль, ня было прадстаўлена на конфэрэнцыі.

На конфэрэнцыі была вынесена пастанова зьвярнуць большую ўвагу на апісаньне раёнаў і на зьбіраньне матэрыялаў для слоўнікаў жывой мовы і географічнага. Таксама вырашана зьвярнуць большую ўвагу на ўцягненьне ў працу комсамольцаў і актыўных сялян.

З організацыйных пытаньняў у канцы конфэрэнцыі абгаварваліся ўзаемаадносіны раённых і акруговага т-ваў.

Вырашана лічыць раённыя т-вы філіялamі акруговага. Палажэньне аб раённых т-вах даручана распрацаваць сакратарыяту акруговага т-ва.

---

## Расьнянскае раённае таварыства краязнаўства, Калінінскае акругі.

Расьнянскі раён ляжыць досыць далёка ад культурных цэнтраў і ад чыгункі, і з гэтай прычыны там захавалася многа старасьветчыны ў вуснай народнай творчасьці, у адзеньні і наагул ува ўсім быце сялян. Расьнянскае раённае т-ва зьвярнула асаблівую ўвагу на вывучэньне гэтых рэштак старасьветчыны і сабрала многа матэрыялаў па этнографіі і гісторыі раёну. У бліжэйшыя часы т-ва спадзяецца выдаць зборнік вуснае народнае творчасьці Расьняншчыны, карту курганоў раёну, карту лясоў і зборнік палажаных на ноты мясцовых песень.

Апрача гэтага, т-ва зьбірае фэнолёгічныя матэрыялы, старыя грошы.

---

## Мілаславіцкае раённае краязнаўчае таварыства, Калінінскае акругі.

Мілаславіцкае раённае таварыства організавалася 28 лютага 1925 г. і ў сучасны момант налічвае 33 члены.

Т-ва наладзіла дзьве экскурсіі на берагі рэк Астра і Іпуці, у час якіх былі знойдзены некаторыя рэчы, выбраныя ваколічным сялянствам з курганоў.

Гэтыя рэчы перахоўваюцца пры раённай сямігодцы і палажылі сабой пачатак мясцоваму музэю. Кожнаму члену т-ва даручана скласьці географічна-гістарычны нарыс бліжэйшых ваколіц сваёй вёскі і да 25 лістапада прадставіць сабраныя на мясцох казкі і песьні, што сьпяваюцца ў восені. Праўленьне разаслала ўва ўсе школы і іншыя культурныя ўстановы раёну адозву-

У ЦБК т-ва накіравала сьпіс паселішчаў раёну з адзначэньнем курганных груп, якія сустракаюцца ў ваколіцах таго ці іншага паселішча.

## Сьмілавіцкае раённае таварыства краязнаўства, Менскае акругі.

Сьмілавіцкае раённае т-ва краязнаўства залажылася 15 лістапада 1925 г. і за кароткі час свайго існаваньня пасьпела прарабіць досыць вялікую працу. Т-ва правяло абсьледваньне нацыянальнага складу люднасьці раёну, сабрала гістарычныя матэрыялы аб жыцьці раёну і асобных яго паселішчаў, пачынаючы з апошніх гадоў паншчыны, сабрала статыстычныя матэрыялы аб культурна-асьветных установах раёну за апошнія 20 год. Апрача таго, т-ва зьбірае фольклёр, матэрыялы для слоўніка жывой беларускай мовы, узоры мясцовых глеб і г. д. У сучасны момант т-ва налічвае 60 членаў, якія падзяліліся на чатыры сэкцыі: сельска-гаспадарчую, прыродазнаўчую, этнографічную і гісторыка-архэолёгічную.

## Краязнаўчы гурток „Зорка“ пры Краснабярэскім сельска-гаспадарчым тэхнікуме, Бабруйскае акругі.

Гурток „Зорка“ пры Красна-Бярэскім сельска-гаспадарчым тэхнікуме ўтварыўся 3 кастрычніка, 1922 году і, такім чынам, зьяўляецца аднэй з старэйшых краязнаўчых організацый БССР.

У склад гуртка ўваходзяць слухачы тэхнікуму ў ліку 91 чал.

Гурток мае на мэце ўсебаковае азнаямленьне сваіх членаў з палітычным, экономічным і культурным жыцьцём Беларусі і актыўны ўдзел у краязнаўчай працы.

У першыя часы свайго існаваньня гурток займаўся, галоўным чынам, самападрыхтоўкай, знаёміўся з літаратурай па розных галінах беларусазнаўства і краязнаўства.

У сучасны момант гурток распачаў працу вывучэньня вадазбору ракі Добасны і дасьледваньня рэштак старажытнай сялібы ў ваколіцах Краснага-Берагу.

## Клічаўскае раённае таварыства краязнаўства, Бабруйскае акругі.

Клічаўскае раённае таварыства краязнаўства ўтварылася 11 кастрычніка гэтага году, калі на агульным сходзе настаўнікаў раёну было абрана часовае праўленьне, якому была даручана далейшая організацыйная праца. Уцягнуць у працу спачатку давялося толькі настаўнікаў, і другі агульны сход таварыства быў таксама дапасаваным да раённае настаўніцкае конфэрэнцыі 31 кастрычніка. Усіх членаў т-ва ў гэты час было ўжо 52.

Каб уцягнуць у працу шырокія колы мясцовай люднасьці, т-ва распаўсюдзіла па ўсіх сельсаветах, лясьніцтвах, школах і савецкіх гаспадарках адпаведную анкету; з мэтай аховы помнікаў старасьветчыны па ўсіх кутках раёну была разаслана асаблівая адозва з лёзунгам: „Шануй сваю старасьветчыну“.

Апрача таго, члены т-ва зрабілі рэкогносцыровачнае абсьледваньне тэрыторыі раёну ў ваколіцах Клічаву і вёсак: Стаялы, Патокі, Суша. Пры гэтым знойдзены старыя могільнікі, паасобныя курганы, курганныя групы, камені з надпісамі, шэраг нэолітычных прылад, скамянеласьці і г. д.

У мясцовых цэрквах т-вам выяўлены каштоўныя старасьвецкія абразы ды іншыя царкоўныя рэчы і кнігі.

У глухім, бездарожным Клічаўскім раёне, багатым на лясы і балоты, захавалася многа ўсялякага зьвяр'я; быт насельнікаў не адчуваў гарадзкіх уплываў да апошняга часу, і ў мове і ў поглядах сялянства захавалася ня мала старасьветчыны. Краязнаўцам хапае матэрыялу для працы, і толькі перагружанасьць членаў т-ва перашкаджае шырокаму разгортваньню справы.

---

## Краязнаўчая праца гуртка натуралістых пры Барысаўскім пэдтэхнікуме.

Гурток натуралістых пры Барысаўскім пэдтэхнікуме арганізаваўся ў сакавіку м-цы 1925 г. ў складзе 36 членаў студэнтаў тэхнікуму. Першае арганізацыйнае пасяджэньне адбылося 6 сакавіка, на якім быў прыняты статут гуртка і намечаны плян працы на веснавы пэрыод.

Праца гуртка пачалася з фэнолёгічных назіраньняў, якія вяліся паводле праграм, атрыманых гуртком ад ЦБК РСФРС з Ленінграду. За пэрыод сакавік—кастрычнік выслана 53 назіраньні.

Увесь час дзейнасьці гурток падтрымоўвае сувязь з ЦБК РСФСР, ад якога атрымлівае часопіс „Изв. Русск. О-ва Любит. Мировед.“ З наступнай вясны фэнолёгічныя назіраньні будуць рэгулярна высылацца ў Прыродазнаўчую Сэкцыю Інбелкульту.

З пачаткам заняткаў у тэхнікуме ў гэтым вучэбным годзе праца па вывучэньні роднай прыроды разгарнулася яшчэ больш. За кастрычнік адбыліся 3 пасяджэньні Бюро гуртка і два агульных сходы. На першым сходзе, які адбыўся зараз-жа пасьля прыезду студэнтаў з летняга адпачынку, была зроблена справаздача аб праробленай працы за летні час.

На другім абмяркоўваліся пытаньні арганізацыйнага характару, і кіраўніком гуртка, настаўнікам пэдтэхнікуму С. П. Нікіфаровічам, быў зроблен даклад на тэму: „Значэньне гурткоў натуралістых у краязнаўчай працы“.

Для вядзеньня працы на зімовы пэрыод арганізована 2 сэкцыі: орнітолёгічная і мэтэоролёгічная. Першая ставіць сваёй мэтай усебаковае вывучэньне жыцьця зімуючых у нас птушак праз самастойныя назіраньні. Мэтэоролёгічная вядзе назіраньні за тэмпэратурай, сьнегавым насьцілам (згодна інструкцыі, атрыманай ад Інбелкульту).

Пры тэхнікуме будуецца мэтстанцыя III р., якая дасьць магчымасьць весьці назіраньні за ападкамі. Два разы ў месяц на агульных сходах сэкцыі робяць справаздачы ў форме дакладаў аб выніках назіраньняў.

У плян працы на зімовы пэрыод уваходзіць таксама шэраг дакладаў навуковага характару (па эволюцыйнай тэорыі, эўгэніцы, дагляду за пакаёвымі птушкамі, с.-гасп. значэньні птушак і іншыя). Мае быць нарыхтавана зрабіць некалькі дасьледчых экскурсій для вывучэньня прыроды ўзімку.

Азначаная вышэй праца гуртка шчыльна ўвязваецца з працай у кутку жывой прыроды, які арганізованы пры пэдтэхнікуме сіламі натуралістых.

Старшыня Бюро
натуралістых **А. Клімковіч**

г. Барысаў.
18 лістапада 1925 г.
Пэдтэхнікум.

---

## У БДУ.

19 лістапада адбылося пасяджэньне ініцыятыўнай групы па ўтварэньні адзінай краязнаўчай організацыі пры БДУ.

Вырашана ўтварыць адзіную краязнаўчую грамаду пры БДУ, у якую павінны ўліцца краязнаўчы

гурток пры Пэдфаку, краязнаўчы гурток пры Рабфаку, гурткі батанічны, заолёгічны і інш.

На чале „грамады“ будзе стаяць праўленьне з 2 профэсароў, 2 студэнтаў і 1 рабфакаўца.

Грамада падзяляецца на сэкцыі: 1) рабфакаўскую, 2) ботанічна-заолёгічную, 3) этнографічную, 4) экономічную, 5) гісторыка-археолёгічную і 6) мастацкую.

---

## Краязнаўчы гурток пры Менск. Белпэдтэхнікуме.

На другі год заснаваньня тэхнікуму заснаваўся ў ім і краязнаўчы гурток. Ведаючы, якую вялікую карысьць прынясуць студэнты, зьехаўшыся з усіх куткоў Беларусі, у вывучэньні свае старонкі, большая палавіна студэнтаў запісалася ў краязнаўчы гурток.

Пад кіраўніцтвам проф. Скандракова, які дапамог організацыі гуртка, распачалася праца. Было зроблена Скандраковым некалькі інструкцыйных дакладаў на розныя тэмы аб зьбіраньні народнай творчасьці,аб вывучэньні назоваў хатніх і гаспадарчых прылад, аб зьбіраньні лекавых расьлін і іх назоў, аб зьніманьні плянаў тыповых сялянскіх сяліб і інш.

Проф. Сербаў прачытаў некалькі навуковых лекцый на тэму: „Матэрыялы краязнаўства“.

Пасьля кожных вакацый студэнты прывозілі з вёскі шмат каштоўнага краязнаўчага матэрыялу: пляны сялянскіх сяліб, назовы ўрочышчаў, старасьвецкія тлумачэньні пахаджэньня розных вёсак і іх назоў, болей 300 пагаворак, прымет, замоў, каля 300 песень і адзін драматычны народны твор аб паншчыне.

У гэтым годзе гурток налічвае 80 асоб. Доўгі час ён быў заняты організацыйнаю справаю. Ужо стала выпрацаваны статут гуртка і плян на поўгода працы.

Ужо былі зроблены два даклады сакратара ЦБК т. Азбукіна аб зьбіраньні розных матэрыялаў па краязнаўству і даклад аб вывучэньні Менску. Таксама нядаўна адбыўся даклад старшыні слоўніка-тэрмін камісіі ІБК т. Некрашэвіча аб зьбіраньні слоў для ўкладаньня слоўніка жывое беларускае мовы.

Члены гуртка працуюць цяпер над вывучэньнем Менску і зьбіраюць словы для слоўніка Пры ад‘езьдзе на канікулы будзе дадзена кожнаму члену гуртка пэўнае заданьне.

З.

---

## 1-ы Зьезд Усебеларускага Аб‘яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“.

У часе ад 25 да 30 лістапада г. г ў Менску адбыўся 1-ы Ўсебеларускі Маладнякоўскі Зьезд. Апрача дэлегатаў ад маладнякоўскіх філій (Менск, Віцебск, Магілеў, Масква. Ворша, Полацак, Слуцак, Барысаў, Клімавічы, Гомель і інш.), удзел прымалі дэлегаты з УССР (Уладзімер Сосюра, Міхась Іогансэн), ад РСФСР (ад украінскіх пісьменьнікаў Уладзімер Гадзіньскі і ад расійскіх пролетарскіх аб‘яднаньняў тав. Сыгізмунд Валайціс).

Матэрыялы зьезду, у выглядзе стэнографічнай справаздачы, друкуюцца і хутка зьявяцца ў сьвет. Дзеля гэтага коратка спынімся на асноўных момантах працы зьезду.

Прадстаўнікі комуністычнай партыі (т. Крыніцкі і т. Гесьсен), прадстаўнікі ўраду (т. Чарвякоў і тав. Ігнатоўскі) у сваіх прывітаньнях зазначалі вялікую працу, якую „Маладняк“ правёў пры цяжкіх матэрыяльных умовах за два гады свайго, існаваньня. Зазначалася гэта ў адносінах да галіны творча-мастацкай, выдавецкай, выхаваўчай.

Падкрэсьлялася, што яшчэ трэба шмат працаваць, вучыцца, але першы грунт для гэтага заложаны добры.

На зьезьдзе разглядаліся пытаньні наступныя:

1. Даклад тав. Крыніцкага—„Палітычнае становішча БССР“.

2. Даклад тав. Гесьсена—„Разьвіцьцё пролетарскай літаратуры ўва ўмовах дыктатуры пролетарыяту“.

3. Даклад тав. А. Вольнага—„Справаздача аб працы ЦБ Маладняка“.

4. Даклад тав. А. Бабарэкі і садаклад тав. Ўл. Дубоўкі—„Творчы шлях Маладняка“.

5. Даклад тав. М. Чарота—„Арганізацыйныя пытаньні“.

Даклады выклікалі шмат спрэчак, у якіх гарачы ўдзел прымалі і прадстаўнікі украінскай і расійскай пролетарскай культуры.

Асабліва прыемна зазначыць, што ў гэтых спрэчках выяўлялася гарачае жаданьне маладых поэтаў і пісьменьнікаў да пашырэньня сваіх ведаў у галіне як марксыцкай, літаратурна-мастацкай, так і формальна-мастацкай.

Па дакладах прыняты шэраг рэзолюцый, якія, падводзячы падрахунак за мінулы час, даюць кірункі на далейшае.

Зьезд закончыўся наладжаньнем літаратурнага і музычнага вечару ў дзень 2-й гадавіны існаваньня „Маладняка“.

---

**Выдавец—Інстытут Беларускае Культуры.** Рэдактар—*С. Плаўнік (Зьмітро Бядуля)*.

# ЗЬМЕСТ.



## Анкеты, праграмы і інструкцыі:



---

Застаўкі і канцоўкі выкананы мастаком **А. Тычынам** паводле рысункаў на старасьвецкіх слуцкіх паясох.

# ЗЬМЕСТ.

